PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2225) Год XLIV Беласток 3 студзеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Электронная цывілізацыя

Яўген Мірановіч

Календары паказваюць, што да пачатку новага тысячагоддзя асталося ўжо толькі 24 месяцы. Пастаянна нешта ў свеце мяняецца. Не паспеюць аўтары фантастычнай літаратуры выдумаць новай версіі электроннай цывілізацыі, а зараз яна становіцца рэальнасцю. Змены адбываюцца так маланкава, што нават страчваюць сваю цікавасць. Ніякая новая версія штучнай інтэлігенцыі не выклікае ўжо здзіўлення. Камп'ютэры, якія пішуць вершы ці складаюць оперную музыку хутчэй за ўсё пачынаюць палохаць. Разам з электроннай інтэлігенцыяй з'явіліся электронныя грошы і, здаецца, неўзабаве з'явіцца таксама электронная маральнасць. Дзяцей у прадшкольным узросце вучаць пры камп'ютэрах забіваць штодзённа сотні прыдуманых ворагаў. Амерыканскія лейтэнанты, якія націскалі кнопкі ракетных пускавых установак і палілі такім чынам сталіцу Ірака, дзейнічалі ў такіх самых умовах як вучань пачатковай школы пры сваім хатнім камп'ютэры. Розніца тут толькі такая, што камп'ютэр нашага вучня не заводзіць ракетныя ўстаноўкі, і таму дзіця забівае толькі электронных чалавечкаў, але аперацыі праводзіць яно такія ж як амерыканскі салдат, які забівае жывых людзей. Гэты салдат, аднак, праўдападобна раней знішчыў мільёны электронных ворагаў. Яго чалавечая інтэлігенцыя, у выніку шматгадовай дрэсіроўкі, запраграмаваная як камп'ютэрная. Выканае ён кожны загад, які дойдзе да яго па адпаведным інфармацыйным канале.

Калі нехта меў нагоду бачыць амерыканскія ці японскія фільмы для дзяцей, напэўна заўважыў, што іх героі карыстаюцца мовай турэмшчыка або нейкага люмпена. Няма ў іх нічога гуманітарнага. Нейкі непаслухмяны кот за 10 мінут фільма атрымаў 25 ударау па галаве ўсялякімі прадметамі — малатком, палкай, талеркай, цаглінай..., быў укінуты дзяўчынкай у пральную машыну, а пасля падвяргаўся высокай тэмпературы ў сушылцы. Раней у фільмах для дзяцей персанажы ў выглядзе птушак ці жывёл былі носьбітамі чалавечых прыкмет. Сёння дзецям прапануецца глядзець аўтаматы чалавечых кшталтаў для забівання і іх кашмарныя дасягненні. Героі такіх фільмаў зрэдку нешта гавораць, найчасцей крычаць, хрыпяць, стогнуць. Вырасла ўжо пакаленне, якое было выхаванае на такім тэлевізійным мастацтве. Зусім нярэдка, аднак, чуецца навокал, што нехта на вуліцы не вытрымаў некалькіх удараў палкай. Насуперак фільмам, чалавечы чэрап аказаўся слабейшым за лоб электроннага прывіда.

[працяг ☞ 3]


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Вiншуем нашых чытачоў з Калядамі і Новым годам! Жадаем Вам шчасця, моцнага здароўя, радасці ў сямейным жыцці і поспехаў на рабоце.*

РЭДАКЦЫЯ

## Чвэрць войта

Мікола Ваўранюк

**З калідора ў кабінет вядуць дзверы, у якіх звычайна бывае тоўстае матавае шкло. Тут замест шкла — фанера, над якой красуецца шыльда: войт гміны Мікалай... і ніякага прозвішча. Сьвяты?**

Мілейчычы свету не замінаюць. Мала з сябе яму даюць, мала ад яго і хочуць. От, тую рэнту-пенсію чалавеку, або датацыю-субсідыю, калі казаць пра гміну ў цэлым. Пра сваё існаванне шырэйшай публіцы прыпамінаюць у сярэднім раз на чатыры гады, пасля самаўрадавых выбараў. Скандалам.

Так канчаецца кожная спроба сфарміраваць мясцовыя выканаўчыя ўлады. Чатыры гады таму дапамагаць выбіраць войта прыязджаў маршалак Сейміка Беластоцкага ваяводства. Сёлета войта выбралі самі, але, аказваецца, у гміне цяжка яго спаткаць.

— Людзі прыходзяць са справамі, выстройваюцца ў чаргу да войта, а яго няма, — кажа радны гміннай раны з Сабятына Уладзімір Семянюк. — Войт павінен быць першым гаспадаром гміны, а што ж гэта за гаспадар, які ўсяго два дні ў тыдзень пільнуе сваю гаспадарку?

— У тым, што склалася такая сітуацыя, я адчуваю і сваю віну, — кажа радная Гражына Яшчук. — Я галасавала за гэтага войта, але ж за цэлага, а не за чвэрць. Толькі пасля выбару Мікалай Сальшка заявіў радзе, што не збіраецца пакідаць працу ў Бельску.

— Выбіраючы мяне, рада не пытала, як я буду працаваць, — войт Мікалай Сальшка не пагаджаецца, што ў нечым ашукаў радных, якія аддалі за яго галасы. — Галоўнае было выбраць войта, а не ўдакладняць, колькі дзён у тыдзень будзе ён працаваць. Я не кажу, што так як цяпер мусіць быць увесь час. Магчыма, што ў пэўны момант гэта зменіцца.

Калі нешта можа змяніцца Мікалай Сальшка не ўдакладняе. Не бачыць ён нічога заганнага ў тым, што бывае ва ўправе адно па серадах і пятніцах:

— Войт вызначае гміне напрамак дзейнасці, ставіць галоўныя задачы, якія трэба ажыццяўляць. Не мусіць пільнаваць працы чыноўнікаў, ці яны гартаюць паперы, ці п'юць каву або гарбату. У гміннай управе працуюць вопытныя людзі, кіруе імі сакратар гміны, усё ідзе сваім нармальным ходам.

Нармальны ход у Мілейчычах — марудны, калі не зусім на адным месцы. На гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны. У занядбанай дзесяцігоддзямі гміне дажываюць гаспадары-пенсіянеры і тыя з маладзейшых, каму не хапіла энергіі адсюль вырвацца. Найбольшае прад-

[працяг ☞ 3]

## Хрыстос нарадзіўся!

Белыя сняжынкі танцуюць на ветры.
Мароз малюе на вокнах кветкі.
На чорным небе ўжо ўзышлі зоры,
Ангелы светла спяваюць на хорах.
Так пахнуць стравы і мы вяселімся:
Хрыстос нарадзіўся!
Хрыстос нарадзіўся!

Каляднікі ўжо ў кожнай хаце
Славяць Бога ў постаці Дзіцяці.
На чыстым небе іскрацца зоры.
У хатах на ёлках цудоўныя ўзоры.
Свет увесь шчаслівы і мы вяселімся:
Хрыстос нарадзіўся!
Хрыстос нарадзіўся!

Мажэна Жменька,
ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім

## Упарадкавалі тарашкевіцу

У Празе адбылася канферэнцыя па ўпарадкаванні класічнага беларускага правапісу — тарашкевіцы. Гэткім чынам, зроблены быў важкі крок у кірунку ліквідацыі разнабою ў правапіснай практыцы прыхільнікаў „мяккага знака”.

[правапіс ☞ 2]

## Угодкі „Братчыка”

Мы выдалі ўжо тры кніжкі на беларускай мове. Вупускаючы іх мы думалі перш за ўсё аб нашых братах у веры ў Беларусі, куды яны трапляюць бясплатна. Друкуючы па-беларуску мелі мы таксама на ўвазе нашу культуру, якую ў спадчыне атрымалі мы ад нашых бацькоў і маем абавязак перадаць яе наступным пакаленням.

[інтэрв'ю ☞ 4]

## Няма нашых

Каб пабітых адкапаць і перапахаваць, трэба было да немцаў у Беласток ехаць прасіць дазволу. Там вартаўнік нас адапхнуў. Падаліся мы ў царкву да бацюшкі, а ён адвёў нас і кажа: „Вам можа памагчы толькі беларускі камітэт”.

[успамін ☞ 10]

## Беларускі каляндар на 1999 год ☞ стар. 6-7

# Беларусь — беларусы

## Палітрукі атрымалі інструкцыю

Ідэя Аляксандра Лукашэнкі падтрымаць сваю ўладу яшчэ адной „вертыкаллю", на гэты раз ідэалагічнай, адразу стала ажыццяўляцца паслухмянымі чыноўнікамі.

У снежні начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Амелька разаслаў па дзяржаўных установах вобласці прыкладнае палажэнне пра абавязках намесніка кіраўніка прадпрыемства (арганізацыі) па інфармацыйна-выхаваўчай працы і сацыяльных пытаннях (так называецца пасада новых камісараў).

Як вынікае з палажэння, „ідэалагічны" намеснік кіраўніка прадпрыемства або арганізацыі будзе прымацца на працу па ўзгадненні з гарадскім раённым выканаўчым камітэтам. Звольніць яго з працы можна будзе толькі са згоды мясцовых улад.

У абавязкі палітрукоў уваходзіць арганізацыя выхаваўчай працы, падтрымка высокага ўзроўню дысцыпліны на прадпрыемстве, іфармаванне працоўных пра дзейнасць мясцовых улад і ўнутраную ды знешнюю палітыку. Яны таксама будуць падрыхтоўваць адзначэнне дзяржаўных святаў, займацца спартыўна-аздараўленчай і культурна-асветніцкай дзейнасцю і г.д.

У прыкладным палажэнні адзначаецца, што ідэалагічныя кіраўнікі павінны садзейнічаць працы і ўдзельнічаць у мерапрыемствах грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый працоўных, „действующих в рамках Конституции Республики Беларусь". Далей ідзе пералік такіх арганізацый: „БПСМ (створаная Лукашэнкам маладзёжная арганізацыя, якую адразу прззвалі „лукамолам"), Совет ветеранов, ДНД, фонд „Единение", Фонд Мира, Совет женщин, Совет содействию семье и школе и др."

Разам з тым, на першы погляд бясшкоднымі, абавязкамі палітрукі павінны будуць выконваць ролю даносчыкаў для кіраўніцтва прадпрыемства і мясцовай улады. Намеснік па інфармацыйна-выхаваўчай працы „своевременно информирует руководство предприятия (организации) о морально-психологическом климате в трудовых коллективах и структурных подразделениях". Адначасова ён „отвечает на запросы органов исполнительной власти и местного самоуправления о состоянии информационно-воспитательной работы на предприятии (организации).

А напэўна для таго, каб палітрукоў усыпляць ўсур'ёз, ім даецца права ўплываць на лёс, як кіраўнікоў прадпрыемстваў, так і звычайных працоўных.

Пункты 3.3 і 3.4 палажэння канстатуюць, што ідэалагічны намеснік „участвует в работе аттестационно-квалификационных комисий руководящих кадров предприятия (организации) с правом решающего голоса по должности. Вносит предложения руководству о назначении или освобождении руководителей коллективов и структурных подразделений предприятия (организации). Визирует приказы о кадровых перемещениях руководящих работников. Совместно с профкомом вносит предложения руководству предприятия (организации) о материальном и моральном поощрении работников, предостовления кандидатур в органы исполнительной власти к награждениям орденами и медалями, Почётными грамотами и др."

**Зміцер Кісель**

## Змаганне за мову, гэта змаганне за свабоду

Да такой высновы прыйшла Рада Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны на сваім апошнім пасяджэнні, якое адбылося ў Менску 11 снежня.

Рада ТБМ прыняла рашэнне правесці 6-ы з'езд арганізацыі ў Менску 17 красавіка 1999 года. Удзельнікі пасяджэння адзначылі рост папулярнасці друкаванага органа ТБМ газеты „Наша слова" і павелічэнне яе тыражу. Была выказана падзяка рэдактару газеты Станіславу Судніку, які здолеў аднавіць выхад „Нашага слова" ў Лідзе, пасля таго, як у Менску выданне газеты ТБМ было спынена. Акрамя таго, Рада абмеркавала праблемы папулярызацыі „тарашкевіцы" і „лацінкі" ў беларускай мове і вырашыла спачатку выратаваць мову, а ўжо потым яе рэфармаваць. Рада пастанавіла аднавіць дзейнасць камісіі па культуры мовы і даручыць яе кіраўніцтва кандыдату філалагічных навук Пятру Садоўскаму.

На пасяджэнні быў прыняты зварот да ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі. У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што цяперашнімі ўладамі на Беларусі цынічна знішчаюцца нацыянальныя каштоўнасці, найперш, — беларуская мова. „Мова робіцца катэгорыяй палітычнай, і наступ на яе невыпадковы. Такое ўжо было ў Расійскай імперыі і ў сталінскія часы ў СССР. Мэты гэтых дзеянняў відавочныя — асіміляцыя беларускага этнасу і пазбаўленне яго перспектывы мець сваю сапраўды суверэнную дэмакратычную дзяржаву. Выцясненне з ужытку і зневажанне мовы карэннага этнасу Беларусі ляжыць у аснове афіцыйнай палітыкі апошніх чатырох гадоў". Далей у звароце сцвярджаецца: „Дэмакратычныя сілы Беларусі не могуць не разумець, што змаганне за мову — гэта змаганне за нашу свабоду... Таварыства беларускай мовы звяртаецца да ўсіх дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый, да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам: задачай павінна стаць змаганне не толькі за сацыяльныя і палітычныя правы, але і за нацыянальнае разняволенне. Выратаванне роднай мовы — наш маральны і грамадзянскі абавязак".

**Зміцер Кісель**

## Упарадкавалі тарашкевіцу

5 і 6 снежня 1998 г. у Празе, у сядзібе Радыё Свабода, адбылася канферэнцыя па ўпарадкаванні класічнага (традыцыйнага) беларускага правапісу — тарашкевіцы.

З часу, калі Браніслаў Тарашкевіч выдаў сваю „Беларускую граматыку для школ", дзе ён упершыню пастараўся кадыфікаваць беларускі правапіс, мінула 80 гадоў. Тарашкевіца падпала ў Беларусі пад забарону ў 1933 годзе, калі Савет народных камісараў рэфармаваў правапіс адмысловай пастановай. З таго часу ў афіцыйны ўжытак у Беларусі прыйшоў правапіс папулярна званы наркомаўкай. Наркомаўкай карыстаемся і мы на Беласточчыне — і ў школьнай сістэме, і ў нашых друкаваных выданнях.

У Беларусі тарашкевіца адрадзілася ў другой палове 80-тых гадоў, разам з агульным адраджэннем нацыянальнага жыцця. Зразумела, ужываць „правапіс з мяккім знакам" сталі перш за ўсё нефармальныя выданні. Маладыя людзі адкрывалі для сябе беларускую мову (альбо вярталіся да яе) якраз у ейным дарэформавым графічным афармленні. Гэта істотна, бо сёння можна ўжо сказаць, што на тарашкевіцы вырасла цэлае пакаленне карыстальнікаў і носьбітаў беларускай мовы. Адраджэнне тарашкевіцы ў Беларусі — гэта ўжо не мара „кучкі нацыяналістаў", а рэальны лінгвістычны факт.

Тарашкевіца ўвесь час жыла сярод беларускай эміграцыі. Калі ў Беларусі газеты „Свабода" і „Наша ніва" сталі „абкатваць тарашкевіцу", яны маглі пакарыстацца 40-гадовым досведам нью-йоркскага „Беларуса" дый іншых эмігранцкіх выданняў. Аднак жа разам з прыходам штораз большай колькасці іншамоўных слоў і запазычанняў у беларускую мову, у незалежных выданнях пачалі ўзнікаць правапісныя цяжкасці і разнабой. Наспела патрэба ў поўнай уніфікацыі тарашкевіцы. Пражская канферэнцыя гэтую патрэбу, лічу, задаволіла. Падставай „пражскай уніфікацыі" стаўся 23-старонкавы праект правапісу распрацаваны Вінцуком Вячоркам. Перад канферэнцыяй ён быў разасланы да 30 беларускіх лінгвістаў, пісьменнікаў, журналістаў, выдаўцоў і наогул „актыўных карыстальнікаў тарашкевіцы" ў Беларусі і замежжы дзеля папярэдняга абмеркавання. Амерыканскую дыяспару на сустрэчы прадстаўляў Лявон Юрэвіч (з маладой эміграцыі), які прыехаў у Прагу з пастановай, прынятай на адмысловай сходцы. Я папаў у спісак удзельнікаў, відаць, як „актыўны карыстальнік" — калі ўзяць пад увагу першы том перакладу „Уліса", Яновічаву „Доўгую сьмерць Крынак" і палітычны бюлетэнь „Беларускія навіны", дык выходзіць, што да якіх 80 працэнтаў тэкстаў з тарашкевіцай на Беласточчыне я меў дачыненне як перакладчык, рэдактар альбо аўтар.

Не буду прыводзіць тут канкрэтных пастаноў і вырашэнняў праблемаў тарашкевіцы, што былі прыняты ў Празе. Праз які месяц ці паўтары выніковы дакумент будзе даступны ўсім зацікаўленым. Скажу толькі, што пастановы прымаліся не галасаваннем, а праз кансенсус, пасля вычарпальнага абмеркавання спрэчнага пытання, калі адзін бок прызнаваў рацыю апанентам. Гэткім чынам, зроблены быў важкі крок у кірунку ліквідацыі разнабою ў правапіснай практыцы прыхільнікаў тарашкевіцы. Удзельнікі пастанавілі разаслаць выніковы дакумент канферэнцыі — звод правіл тарашкевіцы — у якасці правапіснай рэкамендацыі ўсім, хто піша „з мяккім знакам".

У канферэнцыі прынялі ўдзел: Вінцук Вячорка (аўтар праекта), Сяргей Шупа (вядучы), Пятро Садоўскі, Зміцер Санько, Зміцер Саўка, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Сяргей Сокалаў-Воюш, Вячка Станкевіч, згаданы ўжо Лявон Юрэвіч, аўтар гэтага допісу (гэтым асобам праект рассылаўся дзеля папярэдняга абмеркавання), а таксама яшчэ дзесятак журналістаў і іншых карыстальнікаў тарашкевіцы.

**Ян Максімюк**

## Філасофія галечы

Стагнацыя нашага грамадства выклікана многімі фактарамі, але, бадай, самы важны з іх — працяглая ізаляванасць народа ад знешняга свету.

Людзі немалаga веку нічога добрага ў сваім жыцці не бачылі. У іх парушана арыентацыя, няма рэальнага адпраўнога пункту, пачынаючы з якога можна было б адлічваць станоўчы ці адмоўны перыяд у жыцці. Можна сказаць, што тады жылі добра, але з чым параўнаць тое жыццё, калі невядома, як жывуць іншыя, там, „за бугром".

— На сваю пенсію ў сорак шэсць рублёў я магла апрануцца. Купіць фуфайку, гумавыя боты і світэр, — гаворыць вясковая кабета. — а сёння што купіш?

І на самай справе было так. Але тут прыцягвае ўвагу пералік рэчаў. І ён не выпадковы. Фуфайку і гумовікі жанчына насіла штодня, акрамя хіба што святаў ды паездкі ў горад. Брэжнеўскія часы — гэта найлепшы перыяд у жыцці савецкага чалавека. Людзі ў той час маглі купіць не толькі тэлевізар але пры поўнай эканоміі і аўтамашыну. Вось толькі аўтамабіль быў марай, вяршыняй дабрабыту, а фуфайка — рэч звыклая і неабходная.

Што там, за мяжой, беспрацоўе і прыгнёт, ведалі, пра гэта пісалася і гаварылася, а пра ўсё астатняе прыходзілася толькі здагадвацца.

Жыццёвыя запатрабаванні ў большасці простых людзей надзвычай нізкія.

— Чаго тут жа плакацца, — разважае ў чарзе пенсіянерка, — хлеб ёсць і малачка купіць можна.

Калі глядзець на сённяшнюю эканамічную сітуацыю ў краіне з пазіцый гэтай жанчыны, то яшчэ нічога страшнага няма, бо былі ў яе жыцці часы, калі і хлеба не было.

І не будзем здзіўляцца, калі былыя калгаснікі, атрымаўшы 3 млн. пенсіі на дваіх, усё ж не могуць зразумець, за што ім грошы плацяць.

— Калі рабілі — нічога не давалі, а цяпер сядзім і такія грошы даюць, — паціскаюць плячыма старыя.

Ды і гараджане — учарашнія вяскоўцы таксама не жадаюць лавіць жураўля ў небе — абыходзяцца мінімумам. Складваецца ўражанне, што калі летам не працуе завод, то рабочыя не вельмі смуткуюць — сядзяць па дачах і ў вёсках, якія вырагоўваюць і ў больш складаным становішчы.

У знаёмага разам з жонкай зарплата — пяць мільёнаў, але ён даволі бадзёры. Пад зіму прывёз свежаніну ад бацькі і цешчы, а пад вясну таксама перападзе. Праўда, з кожным годам ухапіць з вёскі шанцаў меней — старыя паміраюць.

„Каб толькі не было горш", — прыходзіцца чуць ад людзей старэйшага ды і сярэдняга ўзросту ў магазіне і за чаркай. І гэта не проста словы, а спосаб мыслення, свая філасофія — уклад жыцця. Пры пастаяннай аглядцы назад, у мінулае, няма перспектывы, аптымізму і жыццёвай сілы. (...)

Калі думаць толькі пра „скварку і чарку", то чалавеку, як і грамадству ў цэлым, немагчыма будзе пазбавіцца ад адчування сваёй непаўнацэннасці.

Беднасць не загана, але і ганарыцца гэтым не прыходзіцца.

**Сымон Свістуновіч**

*Звязда, 15 снежня 1998 г.*

# Угодкі „Братчыка"

**Размова з галоўным рэдактарам праваслаўнага выдавецтва „Братчык" Маркам ЯКІМЮКОМ.**

***— Мінае чатыры гады з моманту выхаду часопіса „Братчык" і дзейнасці аднайменнага выдавецтва. Які быў пачатак?***

— У жыцці хрысціяніна няма выпадковых здарэнняў. Воляй Божай было стварыць такое выдавецтва як нашае, да якога стварэння Бог і найбольш спрычыніўся, а нас нягодных паклікаў такім чынам да служэння Сабе і Царкве. Чатыры гады таму мы выдалі першы нумар „Братчыка", які прымеркаваны быў да свята Ахвяравання Прачыстай Дзевы Марыі і сямсот экземпляраў, якія мы надрукавалі, раздалі каля гайнаўскіх цэркваў, атрымліваючы толькі нейкія ахвяраванні на выдавецкую справу. Першая кніжачка, якую мы выпусцілі, датычыла Казанскай іконы Божай Маці. Зараз выйшла ўжо каля 180 нумароў „Братчыка" і каля дваццаці кніжак. Чатырохгадовы перыяд нашай дзейнасці для Царквы — гэта перыяд спроб, цяжкасцей і радасцей з кожнай нававыдзенай кніжкі. Лічым, што калі б хаця адной асобе нашыя кніжкі далі духовую радасць, дык ёсць сэнс далей працаваць. Некаторыя кніжкі перавыдаем, напрыклад, тройчы „Манахі Афонскай гары аб праваслаўнай духовасці". „Святая Зямля, Цуд Агню" таксама перавыдавалася і перакладзена яна на беларускую, фламандскую і ўкраінскую мовы. Пісаць ёсць аб чым, бо сёння людзі вельмі патрабуюць духовай літаратуры, хаця яны адначасна лянівыя: чатырох старонак „Братчыка" найчасцей ім дастаткова, хаця час ад часу друкуем больш абшырныя нумары.

***— У рэдакцыйным калектыве працуюць толькі дзве асобы. Якім спосабам рыхтуеце да друку столькі кніжак і часопісаў і як іх распаўсюджваеце?***

— У рэдакцыйным калектыве перад усім ёсць Бог Наш у Трох Асобах і мы. Гэта не так і мала. А з Божай дапамогай і мы можам больш. Што тычыцца кальпартажу, дык хіба гэта праблема характэрная для ўсіх меншасных выдавецтваў, і нашага таксама. Аднак у нас свае паспяховыя метады. Нам самы важны чытач і мы вялікую частку сваіх кніжак раздаем дармова або толькі атрымліваем нейкія ахвяраванні.

***— Друкуеце кніжкі таксама і на беларускай мове. Ці многа іх трапляе ў Беларусь?***

— Мы выдалі ўжо тры кніжкі на беларускай мове: „Манахі Афонскай гары аб праваслаўнай духовасці", „Святая Зямля, Цуд Агню" і нядаўна „Расказ аб нараджэнні Ісуса Хрыста". Выпускаючы беларускія кніжкі думалі мы перш за ўсё аб нашых братах у веры на Беларусі, куды ў галоўным яны і трапляюць бясплатна. Друкуючы па-беларуску мелі мы таксама на ўвазе нашу культуру, якую ў спадчыне атрымалі мы ад нашых бацькоў і маем абавязак перадаць яе наступным пакаленням. Праваслаўе ніколі не было звязана з нейкай нацыянальнасцю і стаіць яно па-над усялякімі нацыянальнымі падзеламі. Мовай Царквы супольнай для нас, славян, з'яўляецца мова спецыяльна створаная для гэтага святымі Кірылам і Мяфодзіем і асвячаная Царквою. Аднак нацыянальныя мовы таксама ў некаторых формах павінны быць уведзены ў жыццё Царквы, а прыкладам гэтага тры кніжкі на беларускай мове. Смуткуе нас толькі тое, што ў нашых намаганнях распаўсюджвання беларускай культуры, за нейкімі выключэннямі, не атрымліваем дапамогі з боку беларускіх арганізацый. Хочам тут публічна падзякаваць спадару Яну Ясвіловічу з Англіі і Яўгену Вапу, праграмнаму дырэктару Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь, а таксама іншым прыватным асобам, якія матэрыяльна і духова падтрымліваюць нашыя намаганні.

***— Што Вы параілі б прачытаць таму верніку, які толькі пачынае цікавіцца праваслаўнай літаратурай?***

— Парада простая і адначасна складаная. Біблія і духовыя кніжкі — гэта наш паказальнік дарогі ў рай, з тым улікам, што будзем рэалізаваць у сваім жыцці парады там змешчаныя. Давайце шчыра прасіць Бога, каб дапамог знайсці нам адпаведную кніжку ў адпаведны момант і рэалізаваць яе словы ў нашым жыцці. З Божай дапамогай рыхтуем некалькі кніжак, а менавіта аб Іаане Кранштацкім, святым Серафіме Сароўскім, Васілію Вялікім і фрагменты Дабраталюбія аб душы чалавека. Менавіта ў гэтых кніжках будуць канкрэтныя парады наконт паратунку нашых душ, самых важных у нашым жыцці. Хочам, каб чытач зразумеў гэтыя справы і сышоў з шырокай і прамой дарогі, якая вядзе да згубы, а пайшоў вузкім і цярністым шляхам, які вядзе да Божага шчасця.

Заахвочваем Вас, дарагія ў Хрысце браты і сёстры, да чытання нашых кніжак, якія найлягчэй здабыць, высылаючы на адрас рэдакцыі заказ, або пытаючы ў царкве. Тыя, якія апынуліся ў цяжкіх фінансавых умовах і не маюць за што купіць кніжак, могуць звяртацца да нас з просьбай і вышлем бясплатна.

Карыстаючыся нагодай, звяртаемся таксама да ўсіх тых людзей, якім не абыякавае прапагандаванне нашай рэлігійнай беларускай культуры асабліва менавіта сярод дзяцей, бо апошняя кніжка „Расказ аб нараджэнні Ісуса Хрыста" ім напісана, каб успамаглі матэрыяльна нашыя гераічныя змаганні, што дазволіць нам пагасіць сур'ёзныя даўгі, а ў будучыні выдаць можа нешта новае. Наш адрас: „Bratczyk", 17-200 Hajnówka ul. Mazurska 14, tel/fax: 6822565 (Konto: PBK SA O/H-ka, № 111011704659-2700-1-12).

***— Дзякую за размову***

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

# Беларускія пейзажы па-польску

Завяршыўся другі выпуск конкурсу „Беларускія пейзажы", які на гэты раз праходзіў пад лозунгам „Быць сабой". Конкурс арганізаваўся беластоцкім штомесячнікам „Czasopis".

— Сярод надасланых прац не было твора геніяльнага. І таму галоўную прэмію мы падзялілі на дзве асобы, — сказаў Юры Хмялеўскі, рэдактар штомесячніка.

Узнагароды, велічынёю ў тысячу злотых, атрымалі **Дарота Сульжык** за рэпартаж „Dwa widnokręgi" і **Міраслаў Прандота** за тэкст пад загалоўкам „Zaznałem wiecznej szczęśliwości". Апошні лаўрэат ужо другі раз з'яўляецца пераможцам часопісаўскага конкурсу.

— Шкада, што толькі з нагоды конкурсаў пан Прандота дасылае „Czasopisu" рэпартажы, — адзначыў Сакрат Яновіч, член журы і заадно сакратар штомесячніка. Яновіч без энтузіязму гаварыў пра 18 надасланых на конкурс прац.

— Толькі пяць з іх можна палічыць рэпартажам. Апошнія творы гэта інтэлігентна напісаны артыкулы з пачаткам эсэ, на ўзроўні хатняй працы у VIII і IX класах.

Расказаў ён пры нагодзе пра сустрэчу з адным прафесарам, якога з-за нудотнасці хацелася б зарубаць сякерай.

Сярод конкурсных прац — 90% напісаных на польскай мове. Сакратар рэдакцыі пракаментаваў гэты факт з уласцівай сабе логікай.

— Бо халоп заўсёды ненавідзіць сам сябе. Гэта сялянская псіхалогія і для яе няма ратунку!

Конкурсная камісія ў саставе як з першага выпуску „Беларускіх пейзажаў" — Мар'ян Пілёт (старшыня), Сакрат Яновіч і Юры Хмялеўскі — узнагародзіла дадаткова **Альжбету Нігярэвіч** за рэпартаж „Okno w murze" (прэмія 500 злотых), **Іаанну Госцік** за „Drzemiącą białoruskość" (прэмія 300 злотых) **і Яўгена Бялькевіча** за твор „Наша вёска" (200 злотых). Дадаткова, самыя цікавыя рэпартажы будуць надрукаваны ў кніжным выданні.

Наогул камісія ўзнагародзіла пяць аўтараў. Выглядае, што лаўрэатамі сталі ўсе, хто вытрымаў жанр. Не прысутнічаў таксама старшыня камісіі.

Здзіўляе гэта ўсё — бо ўзнагароды былі як ніколі высокія.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Чвэрць войта

[1 ☞ працяг]
прыемства ў Мілейчычах, прыватны тартак, дае працу дзесяці асобам. Адзіная інвестыцыя апошніх гадоў — новы будынак пошты і тэлекамунікацыі — не ўсіх усцешыла. Пяць тэлефаністак, якія абслугоўвалі ручную станцыю страцілі працу з момантам падключэння да АТС у Сямятычах.

Кожны мае свас жаданні. Настаўнікі найважнейшай справай лічаць утрыманне ў Мілейчычах гімназіі пасля асветнай рэформы. Мястэчковая інтэлігенцыя настойвае таксама на заканчэнне рамонту сінагогі ў цэнтры Мілейчыч і стварэнне ў ёй сапраўднага асяродка культуры. Сёння яго функцыю выконвае святліца пажарнікаў, дзе стаіць тэнісны стол і тэлевізар. Патрэбная гмінная звалка смецця. Сяляне наракаюць на дзіравыя гравійкі, якіх ніхто не рамантуе гадамі. І на адсутнасць водаправодаў.

— Гэтую справу закранулі мы на вясковых сходах, — кажа войт. — Гаспадары павінны выкласці па якіх дзве тысячы злотых, гміна дапамагла б і маглі б пачынаць класці водаправод. Але няма на гэта ахвотных. Малодшыя паўстаўлялі ў свае калодзежы мотапомпы. Старэйшыя кажуць: а нашто нам тая вада, і так дажывем. Можа быць, з такою ініцыятываю спазніліся мы гадоў на пяць.

— Наша гміна, можна сказаць, ляжыць і не дыхае, — кажа Гражына Яшчук. — Тым больш патрэбная інтэнсіўная праца мясцовых уладаў. Войт павінен увесь час думаць як разрэкламаваць гміну, як прыцягнуць сюды грошы, як стварыць новыя месцы працы.

— Маем новага войта, то можа нешта скранецца з месца, — выказвае свае спадзяванні пажылы прахожы на галоўным скрыжаванні Мілейчыч, — бо папярэдняя ўлада нічагусенькі не зрабіла.

Мікалай Сальшка, можна сказаць, мае дэмакратычны мандат кіраваць гмінай як ніхто другі. У гмінную раду ўвайшоў найбольшай колькасцю галасоў. Але за даверам выбаршчыкаў ідуць часта празмерныя патрабаванні. Як апраўдаць спадзяванні, працуючы толькі два дні ў тыдзень? Тое, што войт тутэйшы і добра ведае мясцовыя балючкі, можа аказацца замала. Трэба яшчэ з імі справіцца.

У Мілейчычах не толькі Сальшку Мікалаю, але і Святому Мікалаю было б з гэтым цяжка. Хоць на выпадак яго выбару таксама не давядзецца мяняць шыльдачку на дзвярах кабінета, як не памяняў яе цяперашні войт пасля папярэдняга Мікалая — Блашчука.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Электронная цывілізацыя

[1 ☞ працяг]
Сярод нас жывуць людзі, якія памятаюць цывілізацыю характэрную першаму тысячагоддзю. Напрыклад, у трыццатых гадах на Беласточчыне збожжа жалі такім жа сярпом, якім карысталіся і ў 930 годзе. У шматлікіх дамах не было падлогі, а іх жыхары карысталіся драўлянымі лыжкамі, як тысячу гадоў раней. Недзе ў сямідзесятых гадах у іх хатах з'явіліся тэлевізары, якія адабралі патрэбу сустракацца з суседзямі. Тэлевізар гаварыў аб усім і паказваў усё. Сэнсу камп'ютэрнай тэхнікі аднак яны ўжо зусім не разумеюць. Іх унукам затое электронная мышка з'яўляецца часам адзінай рэальнай мышкай, якую бачылі. Пра тую, якая дзеду вопратку ў сенях пагрызла, некаторыя толькі чулі. Малышы ў прадшколлі гавораць з равеснікамі пра мегабайты, уіндаўсы, драйверы, працэсары. Камп'ютэрныя неалагізмы замацаваліся ўжо ў штодзённай лексіцы маладшага пакалення. На нашых вачах мяняецца цывілізацыя. Тое, што саракагадовым людзям можа здавацца дзіўным, зусім нармальнае іх дзецям. Гэтым апошнім, аднак, зусім немагчыма растлумачыць, што такое камунізм ці сацыялістычнае будаўніцтва, не ўспамінаючы ўжо пра суседскія змаганні за мяжу ў полі. Для камп'ютэрнага пакалення гэтая тэрміналогія і згаданыя праблемы — незразумелыя, амаль дагістарычнай даўнасці. Але для іх бацькоў гэта амаль учарашні дзень.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Добры прыклад

У 51 нумары „Нівы" ад 20 снежня 1998 года прачытаў я допіс „Як працуе радны", у якім расказваецца пра Міхала Мінцэвіча з Арлянскай гміны. Цешыцца трэба, што наш калега па пяру завяяваў такі аграмадны давер у аднавяскоўцаў і зараз намагаецца гэты давер апраўдаць перад сваім электаратам.

Добры гэта прыклад. Хацелася б, каб такіх радных было больш у мясцовых самаўрадах.

Хачу ў гэтым месцы адзначыць, што і ў Чаромхаўскай гміне ёсць такі радны. Гэта Янка Кубіцкі, вядомы грамадскі дзеяч і адданы справе чалавек. А вось, што ён мне сказаў у час першай сесіі Гміннай рады.

— Хачу добра служыць грамадству, а перад усім выбаршчыкам са сваёй акругі. Рашыў я адвесці ў сваёй кватэры невялічкі куточак і арганізаваць у ім бюро раднага. Тут буду сустракацца з кожным, каму спатрэбіцца парада ў вырашэнні нейкай праблемы. Усе справы буду прадстаўляць старшыні Рады гміны або радных на сесіях.

Не пустыя гэта словы. Доказам гэтага няхай будзе факт, што Янка Кубіцкі запісвае ўсе асноўныя падзеі, якія збываюцца ў пасёлку на ўласнай відэакамеры і за свой кошт. Часам нехтакіне яму сякі-такі грош на касету, часам пачуе ён слова „дзякуй". Асноўнае, што чалавек мае ахвоту служыць грамадскай справе, змагацца за вырашэнне шматлікіх праблем, якіх у нашым жыцці хоць адбаўляй.

У Новым годзе жадаю маладым радным поспехаў у грамадскай дзейнасці.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Свяча


Жанчыны стараюцца, каб воск быў мяккі і ліпучы.

„Літургіст XV стагоддзя блажэнны Сімяон, архіепіскап Салунскі, паясняючы сімвалічнае значэнне воску, кажа, што чысты воск абазначае чыстату і хараство людзей, якія яго прыносяць у храм. Прыносіцца ён на знак нашага раскаяння ва ўпартасці і гатоўнасці ў далейшым да паслушэнства Богу на падабенства мяккасці і падатлівасці воску. Так як зроблены пчоламі з нектару мноства кветак і дрэў воск сімвалічна абазначае ахвяру Богу ад усяе прыроды, так гарэнне свечкі, пераўтварэнне воску ў агонь абазначае абагатварэнне, перамену агнём і цеплынёй Божай любові і ласкі зямнога чалавека ў новую істоту" („Настольная книга священнослужителя", Москва 1983, с. 78)

Напярэдадні свята Увядзення Багародзіцы ў Храм — у Чыжах Свяча. Тутэйшыя прыхаджане супольна робяць брацкія свечкі. Увечары збіраюцца ў прыхадскім доме, грэюць куплены раней воск у печы, важаць і дзеляць на порцыі. Жанчыны мнуць воск у руках, каб атрымаўся мяккі і ліпучы. З так падрыхтаванага воску мужчыны на вялікім драўляным стале, рукамі і з дапамогай дошчачак фармуюць 24 роўныя 70-сантыметровыя свечкі.

Калі гатовыя, аздобленыя банцікам свечкі стынуць, людзі сядаюць за посную вячэру. Працы і ежы спадарожнічае малітва. За сталом, першы раз у годзе, гучаць калядкі.

— Свяча, то стары звычай, — гаворыць царкоўны стараста Іван Саўчук, — яшчэ мой тата расказвалі, як збіралася моладзь, дзяўчаты і кавалеры, і рабілі свечкі. Прымалі іх гаспадары па чарзе, гасцілі. І кожны лічыў вялікім гонарам, што можа ахвяравацца і прыняць у сябе Свячу.

— Бывала і так, што людзі пасварацца за чаргу, — кажа айцец Рыгор Місіюк, родам з Падрэчан Чыжоўскага прыхода. — І то сур'ёзна, некалькі гадоў да сябе не адзываюцца. Такую крыўду насілі прапушчаныя.


Фармуюць свечкі мужчыны.

Цяпер няма каму сварыцца. Свечкі робяць людзі старэйшыя, якія памятаюць гэты абрад са сваёй маладосці. Кожны год у тым самым месцы. Настаяцель Чыжоўскага прыхода а. Іаан Раманчук дзякуе прысутным:

— Мы адна духоўная сям'я. Такія сустрэчы як сёння, супольная праца на карысць Царквы, умацоўваюць нашу еднасць.

На Увядзенне свечкі пераносяць, з крыжам і харугвамі, у царкву. Бацюшкі сустракаюць шэсце перад дзвярыма. У храме свяцяць і запальваюць свечкі. Будуць яны гарэць у руках братчыц у час найважнейшых царкоўных свят.

Абрад Свяча не сустракаецца нідзе па-за Чыжамі. Айцец Рыгор Місіюк мяркуе, аднак, што гэта стары абрад, звязаны калісь з дзейнасцю Увядзенскага брацтва.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота Ніны Адамюк і аўтара*


Айцец Іаан Раманчук укладае гатовыя свечкі.


Братчыцы нясуць свечкі з Увядзенскай песняй.


Крэсны ход уваходзіць у царкву.

# Сустрэчы ў гайнаўскім саборы

11 снежня 1998 года ў саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы адбылася сустрэча, падчас якой моладзь размаўляла аб талерантнасці. Арганізатарам сустрэчы выступіў аддзел Брацтва праваслаўнай моладзі, які дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы.

Вучні падставовых і сярэдніх школ са сваім апекуном, айцом Славамірам Хвойкам спатыкаюцца апошнім часам кожную пятніцу, каб паразмаўляць на рэлігійныя тэмы. Дыскусія аб талерантнасці тычылася ў галоўным суаднасінаў праваслаўнай моладзі і прадстаўнікоў іншых веравызнанняў, якія жывуць у Гайнаўцы, але маладыя людзі задумоўваліся таксама над паходжаннем самога слова талерантнасць і яго значэння ў праваслаўі.

— Сваю дзейнасць пачалі мы пасля гадавога перапынку вясною і 5 чэрвеня г.г. зноў заснавалі свой аддзел Брацтва праваслаўнай моладзі, — кажа старшыня аддзела Юліта Антыпюк. — Калі была адрамантаваная зала, якой мы цяпер карыстаемся, пачалі мы спатыкацца часцей. У час летніх канікулаў арганізавалі мы паломніцтва ў Супрасль і былі суарганізатарамі пілігрымкі на Святую Гару Грабарку. У верасні пачаліся спатканні па пятніцах, падчас якіх гаварылі, між іншым, пра багаслужбы і Святыя Таінствы ды іх значэнне ў жыцці чалавека. Добра ўспамінаем паломніцтвы, ад якіх застаўся духовы і псіхічны спакой і ўмацаванне ў веры.

— Пасля Каляд хочам арганізаваць ёлку для дзетак нашага прыхода. Для гэтага трэба будзе падрыхтаваць артыстычную частку і пачастунак. Аб'яўляем таксама мастацкі святочны конкурс, на які трэба будзе падрыхтаваць працы на дзве тэмы: „Раджджаство Хрыстова ў маім доме" і „Царква падчас Калядных святкаванняў", — гаворыць Эмілія Троц, член управы аддзела Брацтва. — Вельмі добра, што памагае нам айцец Славамір Хвойка, без якога цяжка было б нам арганізаваць большыя мерапрыемствы.

— 29 студзеня думаем арганізаваць канцэрт беларускай музыкі, падчас якога выступяць, між іншым, калектывы з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Беластока выключна з беларускай рок-музыкай і беларускім фальклорам, — кажа Юліта Антыпюк. — Падумалі мы, каб была толькі беларуская музыка, бо мы ж праваслаўныя, а спалучэнне праваслаўнага мерапрыемства з польскай музыкай было б, прынамсі мне, крыху дзіўным. Аднак, па прычыне абмежаваных магчымасцяў нашага аддзела, будзе гэта мерапрыемства для членаў Брацтва з суседніх аддзелаў.

**Аляксей Мароз**

# Літаратурная старонка (468)

## На абмежку

# Яна недзе ёсць

Кажуць, бескарыслівыя толькі дзеці. Як бы не так. Мы нараджаемся з імкненнем да асабістай выгады. Такі прынцып прыроды. І сысуны не выключэнне. Я — пуп зямлі. Одум прыходзіць з гадамі.

Мой унук Эрнік, першы кавалер дзіцячага садка, закахаўся ў суседку, вучаніцу першага класа. Закахаўся безнадзейна. Старшая на два гады суседка не хоча бавіцца з ім.

— Што рабіць? — распачае малы.

— Кінь задаваку, — стараюся вывесці яго з хлапечай хандры. — Вунь, у пясочніцы, колькі харошых дзяўчатак. Выбірай. Кожная — прыгажэйшая за тую...

— Няма нідзе прыгажэйшай! — з плачам і кулакамі кідаецца на мяне.

Малайчына! Умееш пастаяць за свой ідэал. Палагоджваю канфлікт пакаленняў:

— Тады мусіш чымсьці спадабацца ёй, — кажу.

— Але чым? — бездапаможна раскладае рукі.

Каб я ведаў густ тваёй абранніцы! Але не ведаю. Застаецца універсальная слабасць — ласункі. Таму і кажу:

— Паспрабуй прываражыць цукеркамі.

— Ідэя! — уцешыўся ўнук. Схапіў пачак „каровак" і пабег на двор.

Вярнуўся з маркотнай мінай:

— Цукеркі з'ела, а бавіцца не хоча.

Значыць, прычына глыбейшая, дзяўчынка не шалахвостка, кіруецца дальнім разлікам.

Было лета і я меў водпуск. Ужо старэў, не цягнулі ні горы, ні мора. Нават Памора, крыштальная казка Аўгустоўскага паазер'я, мая прывольная Яцвягія, не вабіла. А водпуску многа, адрабляю неадпачытае з мінулых гадоў. Паеду над Нараў, у Плёскі: якраз выдавец заснаваў там фірмавы летнік. Галоўнае — блізка. Узяў з сабою дачку і ўнука: хай астыне хлопец ад непрыступнай суседкі. Але не паспелі мы асвоіць вакацыйную хатку, як прыбягае Эрнік з нечаканай навінай:

— І яна тут!..

Суседнічалі з дзіцячым лагерам. У ім і высачыў унук сваю багіню.

— Пайшла на рэчку купацца, — кажа. — Ідзем падглядаць, — цягне за руку.

Што ж, ідзем. Тупаем да купальні дзікім, зарослым кустамі берагам Нарава. Бераг абрывісты, унук гарачыцца, баюся, каб не зваліўся ў раку. І прыходзіць у голаў блазенская думка. Моцна трымаючы гарцуна, кажу:

— Вось зараз вазьму і скокну ў раку.

— І што будзе? — цікавіцца ён.

— Утаплюся.

Думаў, што пасля такой заявы Эрнік пачне адводзіць мяне ад самагубнага ўчынку:

— Не рабі гэтага, як жа мы застанемся без цябе?

Бачыў і прымірэнчы варыянт:

— Давай спярша паназіраем за Ёю, тады разам і бухнемся ў вір.

Тое, што пачуў, зусім збіла мяне з тропу:

— А хто завядзе мяне да мамы!? — жахнуўся ўнук. „Я" ўскочыла на пуп. Забыў нават куды ішоў.

Зрабілася на душы сумна: не шкадуе дзеда. Хочаш тапіцца — твая справа, але перад гэтай паказухай адвядзі мяне да мамы. Ну, але тут мая віна, не трэба было ставіць хлопца ў дурное становішча.

На сямейных адносінах эпізод з „Я" не згуляў адмоўнай ролі, а ўнук неўзабаве сагрэў маю пасмутнелую душу гарачым цяплом. Скончылася лета ў Плёсках, а адпачынкавыя хвасты не адроблены. Нудна сядзець у хаце, схаджу ў рэдакцыю. Унук ідзе са мною. А па дарозе міжнародная кнігарня. Ніколі яе не прамінаю. Зойдзем, паглядзім навінкі. У сярэдзіне многа наведвальнікаў. Прабіраюся да беларускай паліцы. Па абложках бачу, прыйшло добрае папаўненне. Пастой, Эрнік, а я пагартаю. Калі адарваўся ад паліцы, абліўся халодным потам: няма Эрніка! Пытаюся ў прадаўшчыцы, ці не бачыла пяцігадовага хлопчыка. Выйшаў з нейкім дзядзькам, кажа. Непрытомны ад жаху, выбягаю на вуліцу. Ні дзядзькі, ні Эрніка. Кідаюся то ў адзін, то ў другі бок, заглядаю ў пад'езды суседніх дамоў. Нідзе няма. Навед чаго брыду ў кірунку рэдакцыі. Што скажу Веры? А што дачцэ?! Расступіся зямля, стрымгалоў кувыркнуўся б у збаўчую бездань. Але зямля цвёрдая, а ногі з кожным крокам мякчэюць. Куды я іду?..

Ажно насупраць чырвонага касцёла — цуд: Эрнік цягне за руку Веру, паганяе яе, аж змакрэў чубок на ўзбуджаным тварыку. Яшчэ мяне не бачаць.

— Эрнік! — задыхаюся ад шчасця.

Эрнік спыніўся. Утаропіўся ў мяне, як у прывід. Мой залаты хлопчык!

Што здарылася? Спрацавалі роднасныя імпульсы. Унучак у набітай кнігалюбамі кнігарні менш цікавіўся дзіцячымі кніжкамі, каля якіх я яго паставіў, чым людзьмі. І спіна аднаго вялікалюды, што праціскалася ў цесныя дзверы на вуліцу, выдалася яму дзедавай, і ён падаўся следам. Выйшаў на тратуар, а дзед як растварыўся. І хлопец папёр у рэдакцыю. Прапаў дзед! Схапіў бабульку за руку — і бягом, выручаць дзеда!

А што з багіняй? Упадабаў другую — дзяўчыну з кардонкі Lego:

— Падрасту, паеду шукаць яе, — прызнаецца. — Ну, бо недзе ж яна павінна быць.

— А як жа ты знойдзеш яе? Свет такі вялікі.

— Вазьму з сабою Lego і буду прыглядацца да дзяўчат.

А колькі год маляванка бадзяецца па зямным шарыку? Мо ўжо ператварылася ў Бабу-Ягу і толькі расстаўляе пасткі на Чырвоную Шапачку? Гэта ўнука не цікавіла. Не цікавіў яго і тэрмін адысеі, на які ў радасным азарэнні прызначыў сябе. Яна недзе ёсць. І яна чакае мяне. І я знайду яе.

У мроі вочы зашторaны.

**Георгій ВАЛКАВЫЦКІ** ☞



*Прайшло 13 гадоў. Дзед дачакаўся новага мройніка, Кубу. Эрнік змяніў багіню, накланяецца камп'ютэру, мовам і футболу. Куба — русафіл: „Да-да".*

## Дэбют



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Ірэна КУЛІК** нарадзілася 15 лютага 1982 г. у вёсцы Тафілаўцы. Закончыла Пачатковую школу ў Дубічах-Царкоўных. Зараз вучыцца ў другім класе II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Дэбютавала ў „Зорцы" („Ніва" н-р 52 ад 24.12.1995 г.) артыкулам „Дом маіх мараў". Двойчы ўдзельнічала ў конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Творы Ірэны друкаваліся ў зборніках „Плыву морам майго жыцця" (1997) і „Зноў чуеш словы" (1998).

* * *

Гляджу на сонца
Быццам дзіця
Хаджу без мэты
Па цёплым снезе
Шукаю дзвярэй
Цёмнай адзіноты
Кранаю зямлю
Непатрэбнымі думкамі
Падаю марна
У бездань
жыцця

* * *

Я — быццам цяжкая хмара
Ты — як сонца халоднае
Прысланяю неба
Уцякаеш

* * *

Малюся слязамі
Стаю пакорна
Сціскаю свечку
І зноў малюся...

* * *

Хачу плакаць
— яшчэ надзея
Хачу ўцякаць
— яшчэ вера
Хачу марыць
— зноў рэчаіснасць
Хачу кахаць
— ужо не магу...

* * *

Бегаю па дрэвах,
Ганяю вецер...
Бачыш!
Апускаеш вочы
Ляжу на хмарцы,
датыкаю сонца...
Хаваешся!
Гоніш ноч...
Спяваю абыякава,
У хоры кветак...
Не слухаеш!
Уцякаеш хутка...
Плыву лёгка,
Па зялёным лузе...
Бачыш!
Нічога не разумееш...

**Іаланта КАБЗАР**

* * *

Увесь дзень нікога не было
На мяжы жыцця і смерці
Цішыня густым змрокам
Абляпіла вейкі Муз
І ўкалыхаў вецер
Закасцянелае
У крышталях слоў
Чаканне

**Міра ЛУКША**

### Лес

Мае дрэвы
не ў самоце
растуць
за мяне
там
дзе я іх
пасадзіла
дзіцячай жменькай

**Барыс РУСКО**

### Вопыт

Цаню
адну пару дня
і адну пару года,
і адну пару жыцця
чалавека.
Рэферэндуму
не аб'яўляю.
Найцэнны
сонца бляск —
і вачэй,
і кветак —
пра думку іншых
пытацца не мушу.
На гэтай ніве
збіраю выключна
спелыя зёлкі.

### *Студзень – Styczeń*
**1 19 Пт Баніфацыя, *Nowy Rok*, Mieczysława**
2 20 Сб Ігната, Фёдара, Izydora
**3 21 Н Ульяны, Пятра, Danuty**
4 22 Пн Анастасіі, Фядоцці, Eugeniusza
5 23 Ат Паўла, Ніфанта, Emiliana
6 24 Ср *Куцця*, Яўгеніі, *Trzech Króli*
7 25 Чц *Каляды (Нар. Хрыст.)*, Juliana
8 26 Пт *Сабор Прасвятой Багародзіцы*, Канстанціна, Mścisława
9 27 Сб Сцяпана, Фёдара, Marceliny
**10 28 Н Агаф'і, Ніканора, Nikanora**
11 29 Пн Маркела, Марка, Honoraty
12 30 Ат Анісіі, Фядоры, Arkadiusza
13 31 Ср *Шчодры вечар*, Маланні, Bogumiły
14 1 Чц *Новы Год*, Васіля, Feliksa
15 2 Пт Серафіма, Сільвестра, Makarego
16 3 Сб Гардзея, Малаха, Włodzimierza
**17 4 Н Засімы, Феакціста, Rościsława**
18 5 Пн Міхея, Апалінарыі, Małgorzaty
19 6 Ат *Вадохрышча (Богаяўленне)*, Mariusza
20 7 Ср *Сабор св. Іаана Хрысціцеля*, Sebastiana
21 8 Чц Еміліяна, Дамнікі, Dzień Babci
22 9 Пт Піліпа, Пятра, Dzień Dziadka
23 10 Сб Рыгора, Феафана, Marii
**24 11 Н Фядоса, Міхала, Franciszka**
25 12 Пн Таццяны, Савы, Tatiany
26 13 Ат Ярмілы, Пятра, Pauliny
27 14 Ср Ніны, Адама, Angeliki
28 15 Чц Паўла, Прохара, Tomasza
29 16 Пт Максіма, Пятра, Hanny
30 17 Сб Антона, Macieja
**31 18 Н Апанаса, Кірылы, Ludwiki**

### *Люты – Luty*
1 19 Пн Макара, Арсенія, Ignacego
2 20 Ат Яфіма, Іны, Mirosława
3 21 Ср Максіма, Яўгена, Stefana
4 22 Чц Цімафея, Лявона, Weroniki
5 23 Пт Клімента, Генадзя, Agaty
6 24 Сб Ксеніі, Герасіма, Kseni
**7 25 Н Майсея, Рыгора, Romualda**
8 26 Пн Аркадзя, Марыі, Hieronima
9 27 Ат Яна, Nikifora
10 28 Ср Яфрэма, Ісака, Elwiry
11 29 Чц Ігната, Рамана, Lucjana
12 30 Пт Васіля, Рыгора, Radosława
13 31 Сб Мікіты, Віктара, Swietłany
**14 1 Н Трыфана, Пятра, Walentego, Walentynki**
15 2 Пн *Грамніцы (Стрэчанне Гасп.)*, Jowity, Klaudii
16 3 Ат Ганны, Сямёна, Danuty
17 4 Ср Сідара, Мікалая, *Popielec*, Łukasza
18 5 Чц Агаф'і, Фядоса, Wiaczesława
19 6 Пт Хрысціны, Марфы, Konrada
20 7 Сб Парфена, Лукаша, Leona
**21 8 Н Захара, Фёдара, Feliksa**
22 9 Пн *Пачатак Вялікага Посту*, Нікіфара, Панкрата, Małgorzaty
23 10 Ат Валянціны, Ганны, Damiana, Romana
24 11 Ср Усевалада, Дзмітрыя, Macieja, Sergiusza
25 12 Чц Аляксея, Мялеція, Wiktora, Cezarego
26 13 Пт Зоі, Святланы, Aleksandra
27 14 Сб Кірылы, Аўксенція, Anastazji, Gabriela
**28 15 Н Анісіма, Еўфрасінні, Romana**

### *Сакавік – Marzec*
1 16 Пн Данілы, Памфіла, Radosława
2 17 Ат Фёдара, Марыяны, Heleny
3 18 Ср Льва, Флавіяна, Maryny
4 19 Чц Архіпа, Максіма, Kazimierza
5 20 Пт Агафона, Карнілы, Adriana
6 21 Сб Цімафея, Юрыя, Wiktora
**7 22 Н Маўрыкія, Апанаса, Tomasza**
8 23 Пн Аляксандра, Палікарпа, Beaty, Dzień Kobiet
9 24 Ат Эразма, Яна, Katarzyny
10 25 Ср Тараса, Cypriana, Marcelego
11 26 Чц Парфірыя, Севасцьяна, Konstantego
12 27 Пт Пракопа, Ціта, Grzegorza
13 28 Сб Марыны, Васіля, Krystyny
**14 1 Н Антаніны, Еўдакіі, Leona**
15 2 Пн Багдана, Арсеня, Klemensa
16 3 Ат Кляоніка, Яўтропія, Izabeli
17 4 Ср Данілы, Герасіма, Zbigniewa
18 5 Чц Адрыяна, Іраіды, Cyryla
19 6 Пт Аркадзя, Канстанціна, Józefa
20 7 Сб Васіля, Яўгена, Klaudii
**21 8 Н Апанаса, Лазара, Mikołaja**
22 9 Пн *40 мучанікаў*, Кесарыя, Bogusława, Katarzyny
23 10 Ат Галіны, Купрыяна, Pelagii
24 11 Ср Сафрона, Яфіма, Gabriela
25 12 Чц Свята Незалежнасці, Рыгора, Феафана, Marii
26 13 Пт Хрысціны, Нікіфара, Larysy
27 14 Сб Бенядзікта, Расціслава, Lidii
**28 15 Н Аляксандры, Гапея, Anieli**
29 16 Пн Трафіма, Юльяна, Wiktoryna
30 17 Ат Аляксея, Макара, Amelii
31 18 Ср Кірылы, Трафіма, Balbiny



# Беларускі ка

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Адрас рэдакцыі: *15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149*
Тэл./факс: *(0 85) 743 50 22*
E-mail: *niwa@kurier-poranny.com*

### *Ліпень – Lipiec*
1 18 Чц Лявона, Іпата, Haliny
2 19 Пт Юды, Засімы, Marii
3 20 Сб Мяфодзія, Апанаса, Anatola
**4 21 Н Юльяна, Цярэнція, Elżbiety**
5 22 Пн Зіны, Зянона, Karoliny
6 23 Ат Арцёма, Агрыпіны, Agrypiny
7 24 Ср *Нар. св. Іаана Хрысціцеля*, Антона, Cyryla
8 25 Чц Фаўроніі, Пятра, Prokopa
9 26 Пт Давіда, Дзяніса, Weroniki
10 27 Сб Марціна, Іаанны, Witalisa
**11 28 Н Сяргея, Германа, Olgi**
12 29 Пн *Пятра і Паўла*, Janiny, Weroniki
13 30 Ат *12 Апосталаў*, Eugeniusza
14 1 Ср *Кузьмы і Дзям'яна*, Marceliny, Stelli
15 2 Чц Фацея, Ювеналія, Włodzimierza
16 3 Пт Анатоля, Піліпа, Marii
17 4 Сб Андрэя, Марфы, Aleksego
**18 5 Н Апанаса, Сяргея, Kamila**
19 6 Пн Юльяны, Валянціна, Wincentego
20 7 Ат Тамаша, Акакія, Eliasza
21 8 Ср Пракопа, Феафіла, Daniela
22 9 Чц Кірылы, Панкрата, Magdaleny
23 10 Пт Антона, Апалона, Apolinarego
24 11 Сб Вольгі, Яўфіміі, Krystyny
**25 12 Н Міхаіла, Арсеня, Walentyny**
26 13 Пн Гаўрылы, Сцяпана, Anny
27 14 Ат Анісіма, Юста, Natalii
28 15 Ср *Уладзіміра*, Юліты, Wiktora
29 16 Чц Юліі, Аляўціны, Marty
30 17 Пт Марыны, Лазара, Julity
31 18 Сб Еміліяна, Яна, Ignacego

### *Жнівень – Sierpień*
**1 19 Н Серафіма, Макрыны, Piotra**
2 20 Пн *Ільі*, Апанаса, Kariny
3 21 Ат Сямёна, Ануфрыя, Lidii
4 22 Ср Марыі Магдаліны, Dominika
5 23 Чц Трафіма, Апалінара, Nony
6 24 Пт Хрысціны, Барыса, Глеба, Jakuba
7 25 Сб *Ганны*, Макара, Doroty
**8 26 Н Параскевы, Ермалая, Cypriana**
9 27 Пн Панцеляймона, Навума, Romana
10 28 Ат *Смаленскай і Супрасльскай Ікон Божае Маці*, Borysa
11 29 Ср Калініка, Серафіма, Zuzanny
12 30 Чц Андроніка, Валянціна, Sławomiry
13 31 Пт Юліты, Еўдакіма, Diany
14 1 Сб Макавеяў, Аляксандра, Maksymiliana
**15 2 Н Сцяпана, Васіля, *Wniebowzięcie NMP***
16 3 Пн Ісака, Антона, Rocha
17 4 Ат Еўдакіі, Аліфера, Jacka
18 5 Ср Ноны, Анфіра, Ilony
19 6 Чц *Спаса (Праабраж. Гасп.)*, Juliana, Ludwika
20 7 Пт Пімена, Мітрафана, Bernarda
21 8 Сб Еміліяна, Мірана, Franciszka
**22 9 Н Матфія, Антона, Cezarego**
23 10 Пн Лаўрэнція, Рамана, Filipa
24 11 Ат Фёдара, Васіля, Emilii
25 12 Ср Аляксандра, Памфіла, Luizy
26 13 Чц Максіма, Ціхана, Sandry
27 14 Пт Міхея, Фядоса, Moniki
28 15 Сб *Спленне (Успенне Пр. Багародзіцы)*, Patrycji, Aleksandra
**29 16 Н Дзяміда, Херымона, Sabiny**
30 17 Пн Мірона, Паўла, Róży
31 18 Ат Флора, Лаўра, Rajmunda

### *Верасень – Wrzesień*
1 19 Ср Андрэя, Цімафея, Bronisława
2 20 Чц Самуіла, Севіра, Stefana
3 21 Пт Фадзея, Васы, Szymona
4 22 Сб Апанаса, Агафоніка, Lilianny
**5 23 Н Ірынея, Калініка, Doroty**
6 24 Пн Пятра, Георгія, Beaty
7 25 Ат Варфаламея, Ціта, Reginy
8 26 Ср Наталлі, Адрыяна, Radosława
9 27 Чц Пімена, Савы, Sergiusza
10 28 Пт Ганны, Майсея, Łukasza
11 29 Сб *Галавасека (Усячэнне Галавы св. Іаана Хрысціцеля)*, Jacka
**12 30 Н Аляксандра, Хрыстафора, Marii**
13 31 Пн Генадзя, Купрыяна, Eugenii
14 1 Ат Сямёна, Марфы, Cypriana
15 2 Ср Багдана, Антона, Nikodema
16 3 Чц Дарафея, Анфіма, Edyty
17 4 Пт Юльяна, Фёдара, Justyny
18 5 Сб Елізаветы, Раісы, Stefanii
**19 6 Н Міхала, Зянона, Konstancji**
20 7 Пн Макара, Лукаша, Eustachego
21 8 Ат *Прачыстая (Нараджэнне Пр. Дзевы Марыі)*, Mateusza
22 9 Ср *Перанясенне мошчаў муч. Гаўрыіла*, Ганны, Tomasza
23 10 Чц Клімента, Пятра, Tekli
24 11 Пт Сяргея, Дзмітрыя, Teodora
25 12 Сб Юльяна, Фёдара, Aurelii
**26 13 Н Карнілы, Валерыяна, Justyny**
27 14 Пн *Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга*, Яна, Damiana
28 15 Ат Мікіты, Сцяпана, Luby
29 16 Ср Людмілы, Віктара, Michała
30 17 Чц Веры, Надзеі, Любові, Zofii

## *Красавік – Kwiecień*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Чц | Дар'і, Клаўдзія, Grażyny |
| 2 | 20 | Пт | Сяргея, Святланы, Władysława |
| 3 | 21 | Сб | Якуба, Тамаша, Ryszarda |
| **4** | **22** | **Н** | ***Вербніца*, Васіля, Драсіды, *Wielkanoc*, Wacława** |
| 5 | 23 | Пн | Лідзіі, Нікана, *Wielkanoc*, Wincentego |
| 6 | 24 | Ат | Арцёма, Захара, Norberta |
| 7 | 25 | Ср | *Благавешчанне(Дабравешчанне Пр. Багародзіцы)*, Савы, Donata |
| 8 | 26 | Чц | Алы, Ларысы, Dionizego |
| 9 | 27 | Пт | Матроны, Мануіла, Dymitra |
| 10 | 28 | Сб | Іларыёна, Сцяпана, Michała |
| **11** | **29** | **Н** | ***Вялікдзень*, Марка, Leona, Filipa** |
| 12 | 30 | Пн | Велікодны Панядзелак, Яна, Juliusza, Zenona |
| 13 | 31 | Ат | Іпата, Іоны, Idy |
| 14 | 1 | Ср | Марыі, Яфіма, Justyny |
| 15 | 2 | Чц | Палікарпа, Ціта, Anastazji |
| 16 | 3 | Пт | Мікіты, Фядоссі, Julii |
| 17 | 4 | Сб | Язэпа, Юрыя, Roberta |
| **18** | **5** | **Н** | **Фядоры, Платона, Alicji** |
| 19 | 6 | Пн | Мяфодзія, Платаніды, Tymona |
| 20 | 7 | Ат | Юрыя, Руфіна, Agnieszki, Czesława |
| 21 | 8 | Ср | Ніфанта, Асінкрыта, Feliksa |
| 22 | 9 | Чц | Вадзіма, Марыава, Łukasza |
| 23 | 10 | Пт | Аляксандра, Максіма, Jerzego |
| 24 | 11 | Сб | Анціпа, Якуба, Aleksandra |
| **25** | **12** | **Н** | **Васіля, Давіда, Jarosława** |
| 26 | 13 | Пн | Артамона, Крыскента, Marzeny |
| 27 | 14 | Ат | Марціна, Антона, Teofila, Zyty |
| 28 | 15 | Ср | Анастасіі, Трафіма, Marka, Pawła |
| 29 | 16 | Чц | Галіны, Ірыны, Rity |
| 30 | 17 | Пт | Адрыяна, Сямёна, Katarzyny |

## *Май (Травень) – Maj*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Сб | Віктара, Кузьмы, Święto Pracy |
| **2** | **19** | **Н** | **Хрыстафора, Трыфана, Anatola** |
| **3** | **20** | **Пн** | ***Гаўрыіла Заблудаўскага*, Konstytucji 3 Maja** |
| 4 | 21 | Ат | Януарыя, Сакрата, Moniki |
| 5 | 22 | Ср | Віталя, Клімента, Ireny |
| 6 | 23 | Чц | *Юрыя*, Аляксандры, Rościsława |
| 7 | 24 | Пт | Савы, Елізаветы, Ludmiły |
| 8 | 25 | Сб | Сільвестра, Марка, Stanisława |
| **9** | **26** | **Н** | **Глафіры, Васіля, Grzegorza** |
| 10 | 27 | Пн | Сямёна, Сцяпана, Antoniny |
| 11 | 28 | Ат | Кірылы, Максіма, Miry |
| 12 | 29 | Ср | Васіля, Яна, Dominika |
| 13 | 30 | Чц | Якуба, Мікіты, *Wniebowstąpienie*, Roberta |
| 14 | 1 | Пт | Тамары, Макара, Bonifacego |
| 15 | 2 | Сб | Барыса, Глеба, Nadziei |
| **16** | **3** | **Н** | **Цімафея, Фядоса, Andrzeja** |
| 17 | 4 | Пн | Пелагеі, Сільвана, Sławomira |
| 18 | 5 | Ат | Ірыны, Якуба, Eryka |
| 19 | 6 | Ср | Міхея, Дзяніса, Mikołaja |
| 20 | 7 | Чц | *Ушэсце (Узнясенне Гасподняе)*, Bazylego |
| 21 | 8 | Пт | Арсеня, Яна, Wiktora |
| 22 | 9 | Сб | *Мікалая*, Ісая, Wiesławy |
| **23** | **10** | **Н** | **Сімана, Таісіі, *Zielone Świątki*, Iwony** |
| 24 | 11 | Пн | *Кірылы і Мяфодзія*, Joanny |
| 25 | 12 | Ат | Германа, Дзяніса, Grzegorza |
| 26 | 13 | Ср | Аляксандра, Макара, Filipa, Pauliny, Dzień Matki |
| 27 | 14 | Чц | Мікіты, Сідара, Magdaleny |
| 28 | 15 | Пт | Дзмітрыя, Пахома, Augustyna |
| 29 | 16 | Сб | Фёдара, Музы, Teodozji |
| **30** | **17** | **Н** | ***Сёмуха (Дзень Св. Тройцы)*, Сцяпана, Еўфрасінні, Feliksa** |
| 31 | 18 | Пн | *Дзень Св. Духа*, Клаўдзіі, Юліі, Anieli |

## *Чэрвень – Czerwiec*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ат | *Крынічка*, Патрыкія, Карнілы, Jakuba, Konrada, Dzień Dziecka |
| 2 | 20 | Ср | Аляксандра, Аляксея, Marianny |
| 3 | 21 | Чц | Канстанціна, Алены, *Boże Ciało*, Tamary |
| 4 | 22 | Пт | Васіліска, Яна, Karola |
| 5 | 23 | Сб | Еўфрасінні, Міхала, Dobromira |
| **6** | **24** | **Н** | **Сцяпана, Сямёна, Norberta** |
| 7 | 25 | Пн | Яна, Ферапонта, Wiesława |
| 8 | 26 | Ат | Карпа, Алены, Maksyma |
| 9 | 27 | Ср | Ніла, Фядоры, Pelagii |
| 10 | 28 | Чц | *Беластоцкай Іконы Божае Маці*, Мікіты, Ігната, Nikity |
| 11 | 29 | Пт | Фядоссі, Яна, Feliksa |
| 12 | 30 | Сб | Ісака, Onufrego, Jana |
| **13** | **31** | **Н** | **Ермія, Філасофа, Antoniego** |
| 14 | 1 | Пн | Усціна, Дзяніса, Elizy |
| 15 | 2 | Ат | Нікіфара, Яна, Jolanty |
| 16 | 3 | Ср | Лук'яна, Паўлы, Aliny |
| 17 | 4 | Чц | Марфы, Севярына, Laury |
| 18 | 5 | Пт | Ігара, Дарафея, Elżbiety |
| 19 | 6 | Сб | Тэклі, Сасанны, Gerwazego |
| **20** | **7** | **Н** | **Валерыі, Багдана, Bogny** |
| 21 | 8 | Пн | Фёдара, Яфрэма, Alicji |
| 22 | 9 | Ат | Кірылы, Марфы, Pauliny |
| 23 | 10 | Ср | Антаніны, Цімафея, Wandy, Zenona, Dzień Ojca |
| 24 | 11 | Чц | Варфаламея, Варнавы, Jana |
| 25 | 12 | Пт | *Св. Ануфрыя*, Пятра, Łucji |
| 26 | 13 | Сб | Антаніны, Ганны, Pawła |
| **27** | **14** | **Н** | **Елісея, Мяфодзія, Władysława** |
| 28 | 15 | Пн | Амоса, Віта, Raisy |
| 29 | 16 | Ат | Ціхана, Антропа, Piotra i Pawła |
| 30 | 17 | Ср | Мануіла, Ісмаіла, Lucyny |

# ляндар 1999



## *Паясненні да календара:*

1. У другой калонцы лічбаў прыводзяцца даты паводле старога стылю, прычым першых трынаццаць лічбаў адносіцца да папярэдняга месяца.
2. Усе свабодныя ад працы дні (апрача выходных субот) значацца ў календары **тоўстым друкам.**
3. Усе царкоўныя святы (праваслаўныя і каталіцкія) значацца ў календары *пахіленым друкам.*
4. Праваслаўныя святы падаюцца ў календары „кірылічным пісьмом", а каталіцкія — „pismem łacińskim".
5. Усе святы нецаркоўнага характару значацца ў календары р а с ц я г н у т ы м д р у к а м.

## *Кастрычнік – Październik*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Пт | Сафіі, Ірыны, Danuty |
| 2 | 19 | Сб | Давіда, Канстанціна, Dionizego, Teofila |
| **3** | **20** | **Н** | **Міхала, Алега, Teresy** |
| 4 | 21 | Пн | Дзмітрыя, Данілы, Franciszka, Rozalii |
| 5 | 22 | Ат | Іоны, Пятра, Igora |
| 6 | 23 | Ср | Андрэя, Інакенція, Artura |
| 7 | 24 | Чц | Уладзіслава, Тэклі, Marka |
| 8 | 25 | Пт | Сяргея, Еўфрасінні, Pelagii |
| 9 | 26 | Сб | Яна, Яфрэма, Ludwika |
| **10** | **27** | **Н** | **Ігната, Марка, Pauliny** |
| 11 | 28 | Пн | Вячаслава, Харытона, Aldony |
| 12 | 29 | Ат | Феафана, Кірыяка, Serafina |
| 13 | 30 | Ср | Міхаіла, Рыгора, Edwarda |
| 14 | 1 | Чц | *Пакрова (Пакроў Пр. Багародзіцы)*, Рамана, Bernarda, Dzień Nauczyciela |
| 15 | 2 | Пт | Андрэя, Усціны, Jadwigi |
| 16 | 3 | Сб | Дзяніса, Яна, Florentyny |
| **17** | **4** | **Н** | **Веранікі, Уладзіміра, Lucyny** |
| 18 | 5 | Пн | Пятра, Піліпа, Łukasza |
| 19 | 6 | Ат | Тамаша, Piotra, Ziemowita |
| 20 | 7 | Ср | Юльяна, Сяргея, Ireny |
| 21 | 8 | Чц | Таісы, Пелагеі, Urszuli |
| 22 | 9 | Пт | Якуба, Максіма, Filipa |
| 23 | 10 | Сб | Амвросія, Андрэя, Ignacego |
| **24** | **11** | **Н** | **Піліпа, Зінаіды, Marcina** |
| 25 | 12 | Пн | Марціна, Кузьмы, Darii |
| 26 | 13 | Ат | Веньяміна, Карпа, Lucjana |
| 27 | 14 | Ср | Назара, Параскевы, Iwony |
| 28 | 15 | Чц | Лук'яна, Яна, Tadeusza |
| 29 | 16 | Пт | Лонгіна, Dalii, Teodora |
| 30 | 17 | Сб | Андрэя, Кузьмы, Zenobii |
| **31** | **18** | **Н** | **Лукаша, Язэпа, Urbana** |

## *Лістапад – Listopad*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Пн | Яна, Клеапатры, *Wszystkich Świętych* |
| 2 | 20 | Ат | Арцёма, Герасіма, *Dzień Zaduszny*, Bohdana |
| 3 | 21 | Ср | Іларыёна, Феафіла, Sylwii |
| 4 | 22 | Чц | *Казанскай Іконы Божае Маці*, Елізаветы, Karola |
| 5 | 23 | Пт | Якуба, Ігната, Sławomira |
| 6 | 24 | Сб | Апанаса, Арэфы, Feliksa |
| **7** | **25** | **Н** | **Маркіяна, Анастасія, Antoniego** |
| 8 | 26 | Пн | Дзмітрыя, Апанаса, Seweryna |
| 9 | 27 | Ат | Несцера, Андрэя, Teodora |
| 10 | 28 | Ср | *Пяценка*, Параскевы, Неанілы, Neli |
| **11** | **29** | **Чц** | **Ганны, Анастасіі, Święto Niepodległości, Marcina** |
| 12 | 30 | Пт | Зіновія, Арцёма, Witolda |
| 13 | 31 | Сб | Урвана, Нікадзіма, Mikołaja |
| **14** | **1** | **Н** | ***Кузьмы і Дзям'яна*, Emila** |
| 15 | 2 | Пн | Маркіяна, Афонія, Idalii |
| 16 | 3 | Ат | Гапея, Язэпа, Marka |
| 17 | 4 | Ср | Нікандра, Анікея, Grzegorza |
| 18 | 5 | Чц | Галакціёна, Рыгора, Romana |
| 19 | 6 | Пт | Паўла, Клаўдзіі, Elżbiety |
| 20 | 7 | Сб | Засімы, Антаніна, Anatola |
| **21** | **8** | **Н** | **Міхала, Рафала, Konrada** |
| 22 | 9 | Пн | Матроны, Антона, Marka |
| 23 | 10 | Ат | Радзівона, Арэста, Klemensa |
| 24 | 11 | Ср | Віктара, Сцепаніды, Flory |
| 25 | 12 | Чц | Яна, Ніла, Katarzyny |
| 26 | 13 | Пт | Нікіфара, Яна, Sylwestra |
| 27 | 14 | Сб | *Запусты*, Дзень Герояў, Waleriana |
| **28** | **15** | **Н** | ***Пачатак посту*, Гурыя, Дзмітрыя, Grzegorza, Zdzisława** |
| 29 | 16 | Пн | Мацвея, Фулвіяна, Błażeja |
| 30 | 17 | Ат | Рыгора, Нікана, Andrzeja |

## *Снежань – Grudzień*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Ср | Платона, Рамана, Natalii |
| 2 | 19 | Чц | Адрыяна, Аўдзея, Pauliny |
| 3 | 20 | Пт | Рыгора, Ганны, Franciszka |
| 4 | 21 | Сб | *Уводзенне ў храм Пр. Багародзіцы*, Аляксандра, Barbary |
| **5** | **22** | **Н** | **Філімона, Архіпа, Krystyny** |
| 6 | 23 | Пн | Аляксея, Мітрафана, Mikołaja |
| 7 | 24 | Ат | Кацярыны, Парфірыя, Marcina |
| 8 | 25 | Ср | Пятра, Клімента, Marii |
| 9 | 26 | Чц | Якуба, Інакенція, Nataszy |
| 10 | 27 | Пт | Рамана, Гаўрылы, Danieli |
| 11 | 28 | Сб | Сцяпана, Васіля, Daniela |
| **12** | **29** | **Н** | **Парамона, Нектарыя, Aleksandra** |
| 13 | 30 | Пн | Андрэя, Фруменція, Łucji |
| 14 | 1 | Ат | Навума, Філарэта, Arseniusza |
| 15 | 2 | Ср | Авакума, Апанаса, Niny |
| 16 | 3 | Чц | Савы, Сафрона, Euzebiusza |
| 17 | 4 | Пт | *Варвары*, Юльяніі, Olimpii |
| 18 | 5 | Сб | Савы, Захара, Bogusława |
| **19** | **6** | **Н** | ***Мікалая*, Dariusza** |
| 20 | 7 | Пн | Яна, Амвросія, Bogumiły |
| 21 | 8 | Ат | Анфісы, Кірылы, Tomasza |
| 22 | 9 | Ср | Ганны, Сцяпана, Honoraty |
| 23 | 10 | Чц | Ангеліны, Тамаша, Sławomiry |
| 24 | 11 | Пт | Данілы, Нікана, Adama, Ewy |
| **25** | **12** | **Сб** | **Аляксандра, Спірыдона, *Boże Narodzenie*** |
| **26** | **13** | **Н** | **Яўгена, Арэста, Dionizego, Szczepana** |
| 27 | 14 | Пн | Філімона, Апалонія, Żanety |
| 28 | 15 | Ат | Трыфана, Сцяпана, Cezarego |
| 29 | 16 | Ср | Агея, Марына, Dawida |
| 30 | 17 | Чц | Данілы, Ананіі, Eugeniusza |
| 31 | 18 | Пт | Зоі, Севасцьяна, Melanii, Sylwestra |

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Святочны нумар „Зоркі" ўзнік па ініцыятыве нашых карэспандэнтаў і чытачоў, вучняў VIII „a" класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Моладзі дапамагала настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч.

Гэта першы ў гісторыі нашай газеты такі нумар (раней такую ж старонку рэдагавалі вучні VIII „е" ПШ н-р 3, але па ініцыятыве „Зоркі").

## Жыццё мяняецца


Вера Вавульская.

Для **Веры Вавульскай**, дзевяностагадовай жыхаркі вёскі Шасталы **Свята Каляд асацыюецца з варожбамі, святочнымі стравамі і калядаваннем**.

Я яшчэ памятаю, як мы „ігралі" ў сенка. Дзеці на Руздво (свята Каляд) збіраліся пры стале, на якім ляжала сена накрытае беленькім абрусам. Потым па чарзе выцягвалі сцяблінкі. Была такая прыгаворка, „што чалавек, які выцягне найдаўжэйшую саломку, найдаўджэй жыці будзе", — кажа смеючыся прабабка.

*А тэпэрка на Коляды то вжэ буольш готовят. Колісь то оно трошкі. Абавязкова чырвоны борщ, аўсяны кісель і „шчолак" (кампот з сушаных груш і яблык).*

І яшчэ памятаю як хадзілі калядаваць. Як ужо заспявалі калядку, то штосьці гаварылі. Знаю, што дзяўчаты гаварылі так:

*Дзіевочка маленька,*
*У мне хустачка рабэнька.*
*Будьтэ з празнічком здоровы.*
*Дайтэ грошы!*

А хлопчыкі казалі інакш:

*Я, маленькі хлопчык,*
*Улез на снопчык,*
*У дудачку іграю,*
*Хрыста праслаўляю.*
*Дайтэ грошы!*

Трошкі інакш пра Каляды расказала нам 67-гадовая **Варвара Роля з Крывятыч**. Для бабулі таксама важнае было сена.

Калісь не было ложкаў, толькі драўляная падлога. Раскідалі на яе добрую вязку сена і лягалі спаць. Сена таксама клалі пад абрус. Таксама добрую вязку, а не як цяпер — жменьку...

Была **Каляда**. Бацька прыносіў яс (такую кветку са збожжа) і ставіў у покуце. Як прайшлі ўжо ўсе святы, тую Каляду абрэзвалі і **давалі курам**. Тую, што асталася дзялілі і **абвязвалі ёю яблынькі зімой** і яшчэ прыгаворвалі:

*Яблынька, адчуцыся,*
*Ісус Хрыстос народівся.*

Людзі гаварылі, што на Руздво **звяры гавораць чалавечым голасам**. І я як была малая, верыла ў тое і, ў **Дзеда Мароза** таксама. А яшчэ свае дзеці я навучыла вершыка:

*Дзед Мароз нясе мяшок,*
*У ім цёплы кажушок.*
*Ой, выйдзі, Дзеду, на ганочак*
*І дай Янку сала кусочак,*
*Развяжы хутчэй мяшок,*
*Дай чырвоны кажушок,*
*Каб сагрэўся Янка трошкі,*
*І валёнкі дай на ножкі...*

**Свята няма без ёлкі і калядак**, — кажа 70-гадовая **Вера Зінкевіч** з Бельска-Падляшскага.

Я не ўяўляю сабе свята без калядавання каля святочнага стала. Цяпер людзі на Руздво пускаюць калядкі з касеты. Мы **самі спявалі** ўсе калядкі. Чакалі першай зорачкі. І калі на небе засвеціць **першая зорка** тады беглі дахаты і чакалі, пакуль татка прынясе снопчык і сена пад абрус. Тады ўжо насілі на стол стравы, якіх было нямнога, не так як цяперка. Рыхтавалі за сталом вольнае месца для госця, якога трэба было прыняць. Строілі ёлку, зразумела, жывую. Упрыгожвалі яе не так, як цяперка, бомбкамі, толькі цукеркамі і яблыкамі. Найбольш радасці было, як самі рабілі цацкі з паперы ці саломы. На ёлку чаплялі таксама свечкі, ад якіх раз у нас яна загарэлася.

Пра калядаванне расказала нам **мама Жанэты**.

У першы дзень свята, раніцай, **калядавалі дзеці**, якія ад слухачоў атрымоўвалі грошы і свянцоныя пірагі. А вечарам **хадзілі старэйшыя**, з цэлага сяла, якія даставалі грошы, каўбасу і яйкі. Калі прайшлі ўжо ўсю вёску, лічылі грошы. За іх на другі дзень **наймалі музыкантаў і рабілі забаву**. Яйкі прадавалі, а каўбасу мелі на закуску.

На Каляду найбольш **смакаваў селядзец**.

Калі я яшчэ была малая, памятаю, як бабуля заўсёды на Каляду пякла селядзец у цесце. Тады ўжо было сапраўднае свята.

А вось што нам сказала пра Каляды наймалодшая асоба ў маёй сям'і — сястрычка **Караліна**, вучаніца трэцяга класа пачатковай школы.

— Мы на свята заўсёды ходзім да бабулі і дзядулі. Калядную вячэру **пачынаем малітвай**, а пасля **дзелімся просфаркай**, якую бабуля прыносіць з царквы.

Для Караліны важны таксама і **Дзед Мароз**.

— Я перад усім **чакаю падарункаў**. Шкада толькі, што за Дзеда Мароза пераапранаюцца на змену мае старэйшыя сястрыцы, а падарункі заўсёды схаваныя ў бабулінай шафе...

Беручы інтэрв'ю пра калядныя абрады мы дайшлі да вываду, што з цягам часу людзі забываюцца пра справы істотныя. Прыдумоўваюць новыя.

Жыццё мяняецца.

**Жанэта Роля**
**і Кася Лукашук**

Падумалі мы, што напішам як выглядала калісьці і сёння свята Каляд у сям'і Роляў. Для гэтага наведалі мы прабабку з Шасталаў, потым бабуль з Крывятыч і Бельска-Падляшскага. Далей узялі інтэрв'ю ў прадстаўнікоў малодшага пакалення: маёй мамы і сястрычкі Караліны. У канцы падсумавалі ўсё гэта. І вось, што атрымалася.

## Святочнае апытанне

Мы рашылі запытацца пра свята Каляд у сваіх сяброў. Склалі мы апытальнік і звярнуліся да сарака вучняў VI, VII і VIII класаў. Мы паставілі ім тры пытанні:

1. З чым табе асацыюецца свята Каляд?
2. Ці ходзіце вы калядаваць?
3. Дзе праводзіш у гэтым годзе свята Каляд?

Атрымалася, што амаль для ўсіх свята Каляд — гэта падарункі, ёлка, смачныя стравы. Вучні падзяліліся на дзве групы, калі ідзе пра месца святкавання: адны — у бабулі, другія — дома.

Нас аднак здзівіла, што амаль палова апытаных сяброў збіраецца ў гэтым годзе калядаваць. Мы дайшлі да вываду, што са старэйшых звычаяў захаваўся толькі звычай калядавання.

**Томак Леанюк,**
**Лукаш Бжазоўскі**
**і Пётр Забродкі**

## Калядныя стравы — кулінарныя рэцэпты

**Аўсяны кісель**

*Патрэбныя прадукты:*
— 2 кілаграмы мукі з аўса або аўсяных шматкоў (płatki owsiane.)
— 5 літраў вады,
— соль для смаку,
— мёд, цукар (калі варым кісель пад Багаты вечар, можам акрасіць скваркамі з сала).

*Спосаб нарыхтоўкі:*
1. Змалоць авёс у млынку, падсеяць з два разы.
2. Заліць вадою (5 літраў).
3. Адставіць нанач.
4. Варыць другога дня на малым агні, мяшаючы, каб кісель не прыгарэў, пакуль не загусне.
5. Праліць у вялікую талерку (спаласканую халоднай вадой) або міску.
6. Падаваць на стол з мёдам, цукрам або скваркамі з сала (хто як любіць).

Кісель таксама класна смакуе заліты шчолакам — кампотам з груш і яблык.

**Куцця**

*Патрэбныя прадукты:*
— 0,5 кілаграма зерня пшаніцы або кашы-панцаку,
— семкі дыні або сланечніка,
— мёд, сушаныя грушы, яблыкі, слівы.

*Спосаб нарыхтоўкі:*
1. Зварыць зерне або кашу.
2. Пералажыць іх у міску.
3. Паліць мёдам.
4. Дадаць семкі сланечніка ці дыні.
5. Куццю аздобіць сушанымі грушамі, яблыкамі, слівамі.

**Рэцэптуру спісалі**
**ад бабуль і прабабуль**
**Эвеліна Тымашэвіч**
**і Жанэта Роля**

# Даваць людзям радасць

Царкоўнае брацтва святога Мікалая мае сваю сядзібу ў малым пакойчыку з куханькай пры Свята-Мікалаеўскай царкве. Сядзім тут, у былой сядзібе царкоўнай канцыляры, і гутарым.

— Вы не глядзіце, што цяпер тут цеснавата. Калі трэба — змесціцца і трыццаць чалавек, — пераконвае мяне **Ірэна Трашчотка**, матор і сэрца царкоўнага брацтва, як назваў яе нехта. — Неўзабаве, на Куццю, 6 студзеня робім вячэру для адзінокіх людзей. А пасля ўжо хутка — і Велікоднае снеданне. Ды і іншыя нагоды здараюцца.

Сапраўды, у пакойчыку цесна. Навокал ляжаць празрыстыя мяшкі, напоўненыя вопраткай. На кухні — таксама. Якраз сёння людзі прыйшлі, усё старанна запакавалі, мяшкі чакаюць, калі паедуць. На гэты раз — у Закарпацце.

Ужо чатыры гады мінула, як брацтва пачало наладжваць харытатыўныя пілігрымкі да братоў на Усходзе. Першы раз паехалі ў Гродна. Якраз тады быў там патрыярх Алексій, і бацюшка Рыгор Місіюк падказаў: добра было б арганізаваць адзін аўтобус з пілігрымамі. Мы арганізавалі пяць такіх аўтобусаў, успамінае Ірэна Трашчотка, з рознымі дарамі: вопраткай, дзіцячымі рэчамі, пасцеллю, посудам, прадуктамі.

Ад таго часу было наладжана не менш трыццаці пілігрымак. Ужо ёсць некалькі пастаянных пунктаў, куды пілігрымы ездзяць найчасцей. Вось узяць хоць бы Жыровіцкі манастыр. Там за гэтыя гады прадстаўнікі брацтва святога Мікалая былі некалькі разоў. Сустракаюцца яны з архімандрытам Леанідам і перадаюць усе прывезеныя дары манастыру, а яны ўжо пасля раздзяляюць іх сярод тых, якім дапамога найбольш патрэбна.

Апрача вопраткі пілігрымы прывозяць прадукты: цукар, алей, маргарын, рыбныя кансервы, чай, збожжавую каву, цукеркі, джэм, маянэз — усё тое, што трывалае і ў дарозе не сапсуецца. Бяда там, уздыхае спадарыня Ірэна, а Мікалай Кулік з тутэйшага брацтва, які прыслухоўваецца да нашай размовы, таксама маркотна ківае галавою.



Адкуль грошы на гэтыя дары? — перапытваюць яны мяне. Не-не, ніякія ўлады не даюць ні залатоўкі. Вопратка, якую прыносяць людзі, ужо ношаная, але прымаем толькі ў добрым стане. А што датычыць прадуктаў, дык мы іх купляем найчасцей у гуртоўнях, каб было танней, а грошы маем са збораў у розных цэрквах, з ахвяраванняў сардэчных людзей. Вось пару дзён таму адна жанчына ўплаціла тысячу злотых, а гэта ж дзесяць старых мільёнаў. Другая прынесла сорак талерак. А посуду прасілі больш, дык я пайшла да сяброўкі (спадарыня Ірэна ўсміхаецца), а яна завяла мяне на кухню і кажа: выбірай што хочаш! Набрала я ў яе тады навенькага посуду... У суме добрых пару тон вопраткі і яды мы ўжо завезлі сваім братам за ўсходняй мяжою.

Вядома, найбольш пілігрымак наладжваецца на Беларусь. Гэта і зразумела: найбліжэй, ды і праваслаўныя Беласточчыны гэта ў асноўным беларусы. 4-5 ліпеня былі ў Жыровічах, 26-27 верасня — ізноў, па трасе: Ваўкавыск, Слонім, Жыровічы.

Толькі што вярнуліся з Мінска, дзе прабывалі 22-23 лістапада (глядзі здымак паломнікаў на фоне царквы Усіх смуткуючых радасцей). Былі там і ў мінулым годзе. Сёлета наведалі таксама манастыр у Лядах, гэта пяцьдзесят кіламетраў ад Мінска. Да 1990 года там у храме ссыпалі збожжа. Як жа яны там цудоўна ўсё адбудавалі! Хараство! У Лядскім манастыры, апрача архімандрыта, цяпер шэсць манахаў і два паслужнікі. Усе яны выказвалі сваю ўдзячнасць уладам Беларусі, якія ім вельмі дапамагаюць. Гэту дапамогу падкрэслівалі і ў Мінску, і ў Жыровічах.

Пілігрымы з беластоцкага праваслаўнага брацтва святога Мікалая выязджаюць не толькі на Беларусь, але і на Украіну, у Расію, Літву.

Што датычыць Украіны, дык там найчасцей былі ў манастыры ў Пачаеве, дзе асабліва пасябравалі з манашкай Надзяй. Былі ў Крамянцы, Кіеве, Роўне, Корцы.

Ездзілі яны таксама ў Пецярбург, у Валаамскі манастыр, які знаходзіцца на выспе на возеры Ладага. Тады з пілігрымамі быў архімандрыт Мірон. У гэтыя паездкі члены брацтва стараюцца запрашаць духоўных нават з вельмі адлеглых мясцін: быў свяшчэннік з Каманчы, што каля Жэшава, і з Бучыны, што каля Яленяй Гуры (ён быў захоплены Мінскам).

У мінулым годзе пілігрымы завезлі ў Вільню для дзяцей з дзіцячага дома сто пяцьдзесят пачак. Шакалад, халва, арэхі, бананы, яблычкі, — усё, што дзеці любяць, там было. Былі там дзеці і праваслаўныя, і каталікі, але адно іх спалучала: усе яны былі з дэградаваных сямей, аднолькава пакрыўджаныя лёсам. Тут мы не рабілі для іх ніякай розніцы, падкрэсліваюць мае субяседнікі, усе атрымалі падарункі.

А ў праваслаўным манастыры Трох Віленскіх Мучанікаў архімандрыт Нікіта прасіў: вы нам шампуні прывязіце, няма чым галаву памыць тут. А як жа, прывезлі!

Калісь у Бераставіцы, было гэта ў мінулым годзе, ужо мы ад'язджалі, гляджу, стаіць каля царквы дзяўчынка ў лёгкай куртачцы з артальёну. Холадна ёй, уся аж трасецца. Доўга не думаючы (спадарыня Ірэна скромна апускае вочы), зняла я сваю цёплую куртку і дала дзяўчынцы. Каб вы бачылі, як цешылася яна. А я падумала, што ад Бераставіцы і ў свэтры неяк даеду. Вялікае шчасце даваць людзям радасць!

Праваслаўнае брацтва святога Мікалая наладжвае таксама так званыя манастырскія аўкцыі. Людзі прыносяць на яе розныя рэчы: старыя самавары, лямпы, сярэбраныя лыжкі, але і кніжкі, альбомы, іконы, цікавыя цацкі, крышталь, дываны і нават зусім звычайныя рэчы, такія, як абутак ці радыёпрыёмнік.

З гэтых аўкцый мы ўжо далі васемнаццаць тысяч злотых на Супрасльскі манастыр, канстатуе спадарыня Трашчотка. А што не пойдзе на аўкцыі, вязем на Беларусь, Украіну.

Прашу вас, падкрэсльце, калі ласка (мая субяседніца хвалюецца), як шмат дапамагаюць нам беларускі консул у Беластоку Мікалай Крэчка і віцэ-консул Павел Латушка. Без іх удзелу гэтыя паездкі былі б намнога менш рэальныя.

Быў позні вечар, трэба было заканчваць нашу размову. Апрануты ўжо спадар Мікалай Кулік пачаў шукаць свае рукавіцы. Няма! Няма нідзе. Бадай іх запакавалі ў гэтыя мяшкі! — згадала Ірэна Трашчотка, і мы дружна зарагаталі. Будзем шукаць, напэўна яны там. Але дзе ты там знойдзеш у гэтым усім?! — спадар Мікалай апусціў рукі. Ат, няхай едуць!

Ірэна Трашчотка, працаўнік „Ортдрука" і юрыст па прафесіі, ад малога — уся ў грамадскай працы. Мае таксама ліцэнзію пілота замежных экскурсій першага класа. Ёй і козыр у рукі. Яна гаворыць: уцягнула мяне, як наркотык. Цяпер, калі няма пілігрымак, мне сумна.

**Ада Чачуга**

# Узнікае музей рэлігійнага мастацтва

**Пра планы заснавання музея ікон у Супраслі расказвае Анджэй ЛЕХОЎСКІ, дырэктар Акруговага музея ў Беластоку.**

Іконы ў нашай краіне паказваліся дагэтуль толькі на часовых выстаўках у беластоцкай Ратушы, у Влацлаўку, Ломжы, Сувалках, Чанстахове і Супраслі. Паявіліся аднак у нас прадпасылкі для арганізацыі манаграфічнага музея з пастаяннаю выстаўкаю сакральнага мастацтва. У наш Музей сабралі мы цікавую калекцыю ікон: у 60-80-я гады купілі мы ў Прадпрыемстве твораў мастацтва і даўніны „DESA" і ад прыватных асоб каля трохсот ікон. У 90-я гады, калі памянялася ў нас палітычна-грамадская абстаноўка і былі зняты абмежаванні ў перасячэнні граніц, на пагранпераходзе ў Кузніцы таможнікі сталі затрымліваць вялікія колькасці ікон, якія беластоцкая Таможная ўправа перадавала ў наш Музей. Сёння ў нас налічваецца каля 1200 штук ікон, крыжоў і іншых твораў сакральнага мастацтва. Створаны яны былі галоўным чынам у другой палове XIX і першай палове XX стагоддзяў, хаця здараюцца і адзінкі з XVIII стагоддзя. А найбольшаю нашаю каштоўнасцю з'яўляецца цудоўная калекцыя супрасльскіх фрэскаў з XVI стагоддзя — скарб нацыянальнай культуры!

Другою прадпасылкаю арганізацыі музея сакральнага мастацтва стаў шанц на атрыманне памяшканняў. У 1996 годзе дзяржава перадала Супрасльскі манастыр Праваслаўнай царкве. З суб'ектаў, якія займалі тамашнія памяшканні, асталіся толькі мы; займалі мы там капліцу і манастырскую трапезную. Пачаліся размовы між намі і ўладамі манастыра і Царквы, каб нашай там прысутнасці прыдаць арганізацыйныя рамкі. Напачатку ішла гутарка пра музейны пункт, аднак у ходзе планавых і выпадковых сустрэч выспявала думка, каб можа нешта і больш. Быў гэта добры час для ўзаемапазнання і даверу. Да гэтага пытання прыхільна ставіліся і архіепіскап Сава, і епіскапы Міран і Якаў. Заключылі мы дагавор, у выніку якога патрэбную Музею частку памяшканняў манастыра атрымалі мы ў бястэрміновае карыстанне.

Цяпер наш Музей знаходзіцца на этапе пошуку грашовых сродкаў на прыстасаванне атрыманых у карыстанне памяшканняў для музейных патрабаванняў. Гэтыя працы мы правядзем на свой кошт. Самыя асноўныя рамонтныя работы будуць доўжыцца больш года. Трэба адрамантаваць дах, водазабеспячальную, ацяпляльную, электрычную і кліматызацыйную ўстаноўкі, правесці экспертызу фундаментаў і агульнабудаўнічы рамонт, адрамантаваць або памяняць на новую, але драўняную, вакониую сталярку, пакласці падлогі... Усё гэта патрабуе і грашовых укладанняў, і часу. Да гэтага яшчэ трэба прыбавіць і падгатоўку сцэнарыя выставы, і самую выставу; і ўсё гэта пры планавым фінансавым забеспячэнні займе каля двух гадоў.

Выставачная паверхня новага музея будзе налічваць каля 500 квадратных метраў. Дзеля параўнання варта згануць, што найбольшая дагэтуль экспазіцыя сакральнага мастацтва, якая праводзілася ў Беластоку, налічвала каля 500 ікон і паказвалася на паверхні каля 200 квадратных метраў. Такім чынам мы будзем у змозе пастаянна паказваць амаль палову нашай калекцыі. І будзе гэта звычайны музей, які будзе працаваць усе дні, апрача панядзелкаў і іншых свабодных у музеях дзён, з 10-й па 17-ую гадзіны. Трэба паказваць такія манаграфічныя выстаўкі, асабліва ў культурным і гістарычным кантэкстах.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Няма нашых

Было Яна 1941 года. Мужчыны нашы ляжалі ў *лізэрфі* (роў пры дарозе). Ішоў чалавек з Заблудава і кажа, што лістоўкі ёсць: камуністаў будуць біць і падсобнікаў, а на спіску падсобнікаў былі ўсе беларусы. Мой бацька адправіў брата ка мне, каб памагаў майму мужу траву касіць; акурат сенакосы былі. А рана, 8 ліпеня, у Рахвалаўцы сусед, што на той самай зямлі жыў, тату з пасцелі падняў на сход, быццам солтыса выбіраць. На спіску былі адны беларусы, у іх ліку тата і брат. Брат быў малады, 18 гадоў яму тады было.

Касілі з раніцы, скасілі кавалак і брат хацеў дадому адправіцца, але я ўпрасіла астацца, і брат згадзіўся. Пайшлі яшчэ раз касіць, а па нейкім часе чуем выстралы. Спярша пасеялі: та-та-та-та. А пасля *паедынча*: пах, пах, пах. Нейк *неразьно* стала. А на лонцы муж брату сказаў: мо гэта дзеці снарады ў агонь кідаюць. Дома сказалі мне, каб я гладышку вады касцам занесла, але бачу, што яны з косамі вяртаюцца. Была каля іх *бабка* і сказала, што „няма нашых, ні татуля тваіго, ні майго".

У школе ці ў *доме людовым* зрабілі сход. Былі немцы з Памераніі, якія ведалі па-польску, іх „нашыя" ўгаварылі. Чыталі са спіска і калі вычыталі майго брата, тата сказаў: „У зенця ў Зверках косі". Але немцам не залежала на ўсіх, і тых, што прысутнічалі, забралі ў самаход і павезлі багнай у лес; рыхтык каля тае калёніі, дзе яна жыла. Каб не яна, то мы і сёння нічога не ведалі б. Муж махнуў ёй рукою і яна кінула ўсё і пайшла за імі, а яны яе не бачылі. Ехалі паволі, бо дарога пясчаная. Самаходы павярнулі ў напрамку Звяркоў, у лясную дарогу, што выходзіць каля сённяшняй царквы. Затрымаліся ў лесе, а яна стаяла... Як ад'ехалі, то заграблі і загладзілі, ядловец пасадзілі; немец так не робіць, толькі свае. І яна з лесу да нас, але забачыла на лонцы маіх брата і мужа. І пасля тая, што бачыла, адразу ў Расію выехала.

Тады мы з братам да сваіх. Бачу: вяртаюцца тры „таксоўкі", немцаў, а брат у кашулі... Я крычу: „Сядай! У баразну ў жыце. Яны вяртаюцца, можа за табою". Калі мы ішлі з плачам, то каланісты, католікі, пытаюцца нас:

— А чаго ж так? Ціха, не плачце, іх павезлі на *доходзэне*.

— А адкуль вы ведаеце, што на расправу?

— Вось толькі што рахвалаўскі солтыс са шпадлем ішоў і сказаў, што павезлі на расправу.

Брат ужо ў Рахвалаўку не пайшоў, хаваўся.

Каб пабітых адкапаць і перапахаваць, трэба было да немца ў Беласток ехаць прасіць дазволу. Не было чым і я згадзілася коньмі. Нас многа баб выбралася, але парэзігнавалі, бо то танк праедзе і конь выпражацца, то што. Заехалі на Варшаўскую, а там поўна пабітага шкла і тыя бабы, што яшчэ асталіся, пазракаліся. А я, босая, з адною з Рахвалаўкі (яна пасля таксама ў Расію выехала) заехалі на Сянкевіча 15. Там быў нямецкі *ужоно*; цяпер ізо там няма, быццам і немца там ніколі не было. У дзверах стаяў малады паляк:

— W jakiej sprawie?!

Мы расказалі, а ён нас адапхнуў:

— Widocznie dobre psy były, kiedy taką śmierć dostali.

Мы адышлі, пахадзілі, але няма як вяртацца. Падаліся ў царкву да бацюшкі. А ён адвёў нас і кажа:

— Вам можа памагчы толькі беларускі камітэт.

Дабіліся мы туды і адзін чалавек зноў павёў нас на Сянкевіча, а там той самы ў дзверах стаіць. Цяпер нас прапусціў, мы асталіся знізу, а чалавек, што нас прывёў, пайшоў да немца. Калі вярнуўся, сказаў:

— Цяпер вам паперы з дазволам не дадуць, але ідзіце і адкопвайце; больш вас ніхто не будзе чапаць.

Вярнуліся мы, муж заказаў па-суседску труны і паехалі адкопваць. І як адкапалі, тады пазналі, што жывымі паклалі іх у яму і пасля пасеялі з аўтаматаў: та-та-та-та. А калі хто яшчэ варушыўся, тых: пах, пах, пах. Мой тата ляжаў тварам уніз з леваю рукою пад галавою, на вачах; відаць вочы закрыў каб не бачыць. Левая яго рука была пашарпана, а за патыліцаю і на цемені дзіркі былі, відаць цераз патыліцу кулька прайшла і зверху выйшла... А нашы прадажнікі прыйшлі паглядзець, але памагчы не было каму.

Брат мой хацеў прыйсці пахаваць тату, але я яго не пусціла. І хаваўся ён ад сваіх, і не памагаў маме.

Аднойчы вечарам мой муж захацеў пайсці да *склепу*, там было радыё, мужчыны там збіраліся. Але я яго не пусціла. Палягалі мы, але чуем крокі. І кагось: пах, пах, пах. Мой у кашулі да брамкі выскачыў: аднаго хлопца двух вялі, а двух кіямі малацілі, галаву раструшчылі. Прыбегла адна баба па майго, але я сама пайшла і той пабіты, уміраючы, яшчэ ўспеў сказаць:

— Далёка не шукайце...

Мой пасля таго доўга дома не начаваў. І я яму кажу:

— А як мяне, то табе добра будзе? Доўга на двары будзеш спаць?

А ўжо жыта пачарнелі, няма каму збіраць. Жнем, а кулі свішчуць у жыце. А гэта дзеці, назбіралі куляў і ружжа...

Пасля вайны хадзілі агітатары, каб у Расію выязджаць. Адзін чалавек пайшоў да такога агітатара парадзіцца, і адказаўся выехаць. І касіў ён аднойчы канюшыну, і да яго ідзе адзін, папрасіў „запаліць". І адразу з кішэні нешта вымае. То той касец наўцёкі кінуўся, у чужую вёску, у Дабрынёўку пабег, у хлеў схаваўся. А той даганіў, схапіў вілы і ў хляве закалоў. І хто астаўся, многіх пазабівалі. Мая сястра першай выехала, брат яе наведаў, вярнуўся і кажа, што таксама выедзе і забярэ маму. І мяне намаўляў, але муж мой сказаў:

— Раз былі ў бежанстве і зноў?!

Брат выехаў; цяпер яго сям'я жыве ў Гродне і Ваўкавыску. А мы асталіся. Помнік на месцы забойства паставілі, але няма каму цяпер ім апекавацца. Асталася і мама, але пасля суседзі ўчапіліся да яе гаспадаркі, жыць не давалі, з ворчыкамі ў Расію выгналі.

Калісь мама зайшла да Склубоўскага, усё яму расказала, а ён выняў хустачку, — пот яму ішоў і слёзы капалі, — але памагчы нічога не мог. Не ўдалося раскрыць, толькі ворагаў панажывалі. І цяпер таксама такія ёсць, што нас на ўсход выпраўляюць... Жыць і баяцца сваіх людзей — то не добра.

Назбіралі мы грошай, каб дрэва на будову купіць. У той дзень, калі ўнук меў па тое дрэва ехаць, я ўсё з хаты выходзіла, за стадолу паглядзець; на хату замок без ключа залажыла. Вяртаюся праз хвіліну, а замок ужо на другі бок заложаны. Я адчыняю, а дзверы ў пакой ботамі падперты, каб добра ўцякаць было. Я да *партманеткі*, а яна пустая. Я падумала, што ён паехаў па дрэва і грошы ўзяў. А ён без грошай! Нават на хлеб пазычалі. А чужы ж не ведаў, што мы грошы збіралі; без свайго нідзе нічога не бывае.

Аднойчы, нядаўна, прыйшлі да мяне пан з паняю, — пані з Мінска, — каб ім старыя песні праспяваць. Я многа песняў ведала, бо мой тата *спявучы* быў. І муж таксама спяваў. Пасля нашага вяселля пачуў яго аднойчы *папечыцель*, дык на клірас зацягнуў і з таго часу кожную нядзелю ў царкве спяваў. І вось тыя двое папрасілі мяне заспяваць. Я спрабавала, але голас у горле застраг, калі зганула пра ўсё. І не дала я рады, і пайшлі яны без нічога.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Стыль Алега Кабзара

**— Алег Кабзар — гэта таленавіты і цікавы жывапісец, які паявіўся нядаўна ў асяроддзі беларускіх мастакоў Беласточчыны, — кажа Віктар Кабац. — Можа таму такі надзвычайны талент, што ён і музыкант па прафесіі. У працах відаць і музычнасць, і вялікую каларытнасць.**



13 снежня 1998 года ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы адкрылася выстаўка алейных карцін Алега Кабзара. На мерапрыемства прыйшло многа людзей, але былі не толькі гайнаўяне. Дрэннае надвор'е не пашкодзіла прыехаць і пабачыць новыя працы свайго земляка бяльшчанам.

Алег Кабзар жыве зараз разам з жонкай Іалантай і дочкамі Аняй і Оляй у Бельску-Падляшскім, але нарадзіўся ў 1971 годзе ў Гомелі. У Мінску ў 1989 годзе закончыў Рэспубліканскую школу па музыцы і выяўленчым мастацтве, пазней вучыўся ў Акадэміі мастацтваў Беларусі. З акадэміяй развітаўся ў 1995 годзе дыпломнай працай „Малітва", якую можна было пабачыць на выстаўцы. Адразу пасля школы прыехаў у родны горад жонкі Бельск-Падляшскі.

— Цікавяць мяне простыя рэчы, напрыклад, макатка, ложак, бутэлькі, кнігі, а мастак павінен дакопвацца да кожнай рэчы, бо інакш стане „przeciętnym lustratorem rzeczywistości" — гаварыў Алег Кабзар, звяртаючы ўвагу на свае апошнія працы, нацюрморт. — Першыя мае працы ў Польшчы гэта краявід Бельска-Падляшскага. Пазней адышоў я ад гэтага і маляваў палі, прастору, а апошнім часам заняўся нацюрмортам і намаляваў некалькі партрэтаў, між іншым партрэт сваёй жонкі.

— Алег Кабзар цікавіць мяне перад усім як надзвычайны каларыст, які і сам прызнаецца да польскай школы мастакоў-каларыстаў. У апошніх яго працах, звязаных з пейзажамі, і карцінах, дзе паказаны Бельск-Падляшскі, відаць вельмі экспрэсіўны колер, кладзены вельмі смела, які будуе і матывы карціны, і яе кампазіцыю ды стварае дасканалы клімат. Відаць гэта таксама ў яго дыпломнай працы „Малітва", што сведчыць аб вяртанні мастака да сваіх ранейшых матываў, — працягвае Віктар Кабац. — Добра, што паказаў ён прыгожую старую архітэктуру Бельска, якой красы бяльшчане на штодзень і не бачаць, а спалучэнне яе з пейзажам дало відавочны рэзультат. Што тычыцца нацюрморту, дык тут відаць вялікую асцярожнасць у карыстанні колерам, але і магчымасці тут намнога меншыя. Партрэт яго сімвалічны, крыху звязаны з іканаграфіяй, але ўсё гэта толькі пошукі. Відаць, што знайшоў ён у Бельску добры клімат, у якім можа добра развівацца, выкарыстоўваючы ў творчасці матывы з нашай ваколіцы, а асабліва пейзажа, у якім ён ужо стварыў свой стыль, які і можна назваць кабзарызмам.

— Мне цяжка і выказвацца наконт карцін, бо я і не знаток такога мастацтва, але такія выстаўкі ў Музеі, дзе можна сустрэцца і паразмаўляць на тэму беларускай культуры вельмі патрэбныя, — кажа Васіль Сакоўскі, былы настаўнік беларускай мовы.

— Добра, што паявілася асоба, якая хоча спансараваць беларускую культуру, — заўважыў Міхал Андрасюк, — а Музею такія асобы патрэбныя.

Спонсарам выстаўкі быў арандатар залы, у якой яна паказвалася, Зіновій Галёнка.

— Сам я нарадзіўся і выхаваўся ў Гайнаўцы, але пасля ліцэя пайшоў вучыцца ў вайсковую школу і пазней трапіў у Варшаву, дзе і зараз жыву, — кажа спонсар выстаўкі. — Ужо раней адкрыў я ў Музеі рэстаран „Белая ружа", а нядаўна ўзяў у арэнду новую залу, правёў неабходныя працы, каб здаць яе ў карыстанне і падчас розных камерцыйных мерапрыемстваў спалучаць яе з дзейнасцю рэстарана. Аднак хацеў бы я адначасна ўспамагаць беларускую культуру і ў будучыні таксама арганізаваць тут розныя выстаўкі і сустрэчы.

**Аляксей Мароз**

# Апошняя?

Маньчыны дзеці напісалі, што на Каляды не прыедуць. Вядома, як цяпер з працай. Не тое, што калісь. Калі не мелі водпуску, некаторыя бралі ў лекара „звальненне". А цяпер за такія „практыкі" можна атрымаць звальненне назаўсёды! На захадзе Польшчы, дзе жывуць Маньчыны, праваслаўных мала, яны рассеяны, і ўсе святы святкуюць паводле „новага стылю".

— Ну, што ж, мне ўжо семдзесят, — уздыхнула Манька. — Калі той час прайшоў? Ці ж спадзявалася я, што дажыву да такіх гадоў? Вайна, акупацыя, вывазка ў Германію на прымусовую работу...

Праўда, баба Манька будзе святкаваць з братам. Ён таксама адзінокі пасля смерці Райкі. Мірону яшчэ горш — яго дзеці далёка, у Амерыцы. Ну, што ж зробіш, такі час, кожны хоча сабе быць панам, дзеці не хочуць жыць з бацькамі...

Пайшла старая запрасіць брата на каляду.

Мірон жыве ў канцы вёскі. Восемдзесят два гады яму. Яшчэ зможа дроў накалоць, падворак прыбраць, зварыць сабе і свайму вернаму Місю. Бялізну мые яму раз у тыдзень сястра.

— Вітай, Мірон! — гукнула старая ад парога.

— А, гэта ты, Маня. Думаў, сусед ідзе. Што скажаш?

— Прыходзь да мяне на каляду. Павячэраем разам, паспяваем калядкі, паўспамінаем. Можа, гэта наша апошняя Каляда?..

— Можа і так, — задумаўся стары. — Мы ўжо не вельмі патрэбныя тут. Пара *туды*. І маладыя ўміраюць, а мы ўжо аджылі сваё...

На каляду Манька як заўсёды падрыхтавала аладкі, селядцы смажаныя ды сырыя з алеем, воцатам і цыбуляй, кісель з аўсянай мукі, квас з грыбоў, грыбы смажаныя з цыбуляй і мукой, галушкі з макам.

На стол паклала белую настольніцу, у якую загарнула сена — знак таго, што Ісус на ім нарадзіўся.

З першай зоркай селі Маня з Міронам вячэраць, згаварылі перад тым малітву. Калі моўчкі пакаштавалі стравы, пачалі спяваць калядкі.

— Памятаеш, Маня, — азваўся брат, — як мы дзецьмі былі? Дома ў нас было пятнаццаць душ. Дзяды, нежанатыя дзядзькі, цёткі, нашыя бацькі і мы, дзеці. Не маглі дачакацца калядных святаў. Столькі ежы, а ўсё такое смачнае...

— Чаму ж мела быць нясмачнае! Раз у год калолі вепрука. Усе пасты пасцілі. На калядныя святы ўрэшце ўдоваль наядаліся! І варанай, і сырой каўбасы па кавалку, і мяса. Нам, малым, праўда, менш давалі.

— Аднак, весялей было. Маладыя збіраліся, песні спявалі. Усё прапала.

— Іншы цяпер час. Людзі нейкімі лянівымі парабіліся. Хто калісь ехаў на поле возам! Пешшу трэпалі. А цяпер самаходам хочуць ехаць! А маладым касеты спяваюць!

— А ў гаспадарцы — машыны за людзей шмат што робяць, але шмат каму не хочацца за земляробства брацца, не аплачваецца, кажуць.

— У гарадах таксама наракаюць на лёс, але якасьці ніхто не збіраецца вяртацца ў вёску.

— Здаецца мне, што гэта так тэлевізар і радыё адмянілі людзей... А памятаеш, як варажылі ў Шчодры вечар перад Новым годам? Абдымалі балясачкі і лічылі, ці будзе пара. Калі пара — пойдзеш замуж, калі не — у дзеўках яшчэ гэты год будзеш. Падбягалі пад вокны, пыталіся, як зваць жаніха або ці ісці, ці пасядзець яшчэ. Як „пасядзець" — будзеш яшчэ ў дзеўках... Памятаю, як ты плакала, калі тваім сяброўкам Надзі і Гандзі сказалі „ісці", а табе „пасядзець", і ты бедавала, што ў старых дзеўках застанешся!

— Дурная была. Што з таго замужжа! Толькі дзяцей нараджай, рабі, і ўсім дагаджай!

— Калісь і святы больш урачыста святкавалі. Былі радыя адпачыць пасля цяжкай працы, смачным пачаставацца. На чацвёрты дзень дзяўчаты вышывалі макаткі. Лічылася „прысвята". Ад Каляд да Вадохрышча — святыя вечары. Тады ніхто нічога не рабіў. Маладыя збіраліся, спявалі калядкі...

— Усё прайшло. Хто з нас падумаў, што старасць нас сустрэне адзінокімі? Нашы дзеці разляцеліся па свеце, не маюць часу да нас прыехаць. Райка памерла, Сашка таксама. І жывём мы, адзінокія, у сваіх чатырох сценах. І не толькі адны. Уся вёска. То ж ад нас толькі трое дзетак у школу ходзяць, а вёска немалая! Дай Божа шчасце тым, што ад нас у свет паляцелі!

— Зараз пойдзем на Усяночную. А заўтра зноў сядзем за стол, разам. Можа, апошні ўжо раз...

**Аўрора**

# Чаромхаўская АТС

У канцы лістапада 1998 г. Чаромха атрымала новую аўтаматычную тэлефонную станцыю. Старадаўнія апараты з ручкай замяніліся ўрэшце сучаснымі тэлефонамі.

Шкадуюць гэтага тэлефаністкі, бо яны зараз вымушаны шукаць сабе працу. А жыхары пасёлка ўздыхаюць з палёгкай. Закончацца іхнія клопаты з тэлефоннай сувяззю. Шкада толькі, што аматары хатняга тэлефона вымушаны яшчэ крыху пачакаць. Зімовае надвор'е перашкаджае пракладцы тэлефоннага кабеля.

— Усё будзе залежаць ад таго, як наша начальства падыдзе да гэтай справы, — сказаў мне брыгадзір, які падключаў АТС. — Калі спатрэбяцца пункты для плана тэлекамунікацыі, можна спадзявацца дазволу падвешання паветранага кабеля. Тады новыя тэлефоны зможам паставіць яшчэ ў студзені. Калі будзе вырашана пракласці выключна кабель у зямлі, работы пачнуцца з пачаткам вясны. Недзе ў сакавіку.

Ну, што ж, чакалі гадамі, дык вытрымаем яшчэ некалькі месяцаў. Асноўны кошт пастаўкі новага тэлефона складае 488 зл. Гэта цана па кішэні нават пенсіянерам.

**Уладзімір Сідарук**

# У Бельску на Міхала

Штогод у бельскай Міхайлаўскай царкве ўрачыста святкуецца свята яе патрона святога Міхаіла.

21 лістапада 1998 года з самай раніцы людзі ішлі і ехалі самаходамі ў напрамку Міхайлаўскай царквы. Мы з мамай усталі раненька, каб заняць добрае месца ў царкве. А жывем мы ад яе вельмі блізка. Але дзе там! Калі мы прыйшлі, у царкве было ўжо так цесна, што мы ледзь уціснуліся туды.

На гэты раз святкаванне было вельмі ўрачыстае. Мы з мамай палічылі прысутных свяшчэннікаў, якія прыехалі з суседніх прыходаў. Можа мы і памыліліся, але нам здалося, што было іх больш трыццаці.

Але найважнейшае, што на ўрачыстасці прысутнічаў **мітрапаліт Сава**. Багаслужба была вельмі прыгожая і асаблівая. Кожны хацеў быць бліжэй іканастаса, каб як найбольш убачыць і пачуць. Але ж трэба было ўступіць месца і іншым.

Мы з мамай выйшлі на панадворак і адтуль слухалі, як праходзіць багаслужба. Замерзлі, як ніколі, бо ўжо стаяў мароз, а гэта ў нас рэдка здараецца ў лістападзе.

Але радасна было нам пасля той урачыстасці сесці за поўны яды стол у цёплай і прыветлівай хаце майго дваюраднага брата Яўгена Шумскага ў Праневічах, што ў трох кіламетрах ад Бельска. У нас так заўсёды бывае, што ў гэты дзень сустракаюцца найбліжэйшыя. Разам успамінаем, дыскутуем, смяемся. А заканчваецца забава далёка за поўнач.

**Анна Артэмюк, Бельск-Падляшскі**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Мой сын цяпер у бальніцы. І сніцца мне такое: расчэсвае яму валасы, трошкі падстрыгае, „мадэлюе" іх яму лекар (ён у бальніцы ім не займаецца канкрэтна, але шмат што тлумачыць і іншым бацькам дзяцей, бо іншыя дактары неяк гэтага так добра не ўмеюць). А валасы ў малога не такія, як у сапраўднасці (кароткія, шэрыя, без бляску), а доўгія, кучаравыя, нейкія рудавата-залацістыя, буйныя. Потым я сяджу з гэтым лекарам на схіле пагорка, парослага травой і кветкамі, і ён расказвае пра сваю дачку. Я бестурботна смяюся, задаволеная, вее цёплы ветрык.

**Мірка**

Мірка! Здаецца, ты прысылаеш ужо другі сон пра валасы свайго сына. У тым першым сне яго валасы былі рэдкія і раслі не як у дзіцяці, а ў сапраўднага мужчыны: на барадзе, на грудзях. І я ведаў, што гэтае дзіця чакае нешта дрэннае. Мо нават нейкая хвароба. Валасы, калі яны прыгожыя, абазначаюць здароўе ці нейкі прыбытак. Валасы рэдкія, слабыя, або не зусім нармальныя (як прыснілася табе) абазначаюць страту грошай ці здароўя, або прынамсі нейкую непрыемнасць.

Цяпер ты пішаш, што сын ляжыць у бальніцы (як і можна было меркаваць) і табе прысніўся пра яго другі сон. На гэты раз, аднак, яго валасы прыгожыя і доўгія, кучаравыя, залацістыя. Мо ў гэтай бальніцы яго падлечаць, а мо і так сустрэне яго нешта добрае, бо аб гэтым гавораць тыя прыгожыя валасы. Тое, што ты смяялася, а навокал былі кветкі і веяў цёплы ветрык, прадвяшчае вам толькі добрае. Жадаю поспехаў!

**Астрон**

# Выбралі солтыса

Пятніца, 18 снежня 1998 года. У гэты дзень у прысутнасці прадстаўніка гміннай адміністрацыі ў вёсцы Бялкі адбыліся перавыбары солтыса.

На вясковы сход прыйшоў 21 жыхар. Прысутныя выбралі выбарчую камісію, а Галена Асташэўская — загадчыца ЗАГСа ў Нарве дапамагла правесці выбары згодна з абавязваючымі законамі. Удзельнікі схода сталі вылучаць кандыдатаў і тады аказалася, што адзіны кандыдат — гэта Сцяпан Семянюк, цяперашні солтыс. У ходзе закрытага галасавання ўсе аднагалосна падтрымалі ягоную кандыдатуру. Такім чынам Сцяпан Семянюк надалей будзе выконваць салтысоўскія абавязкі

Потым сабраныя сталі выбіраць, таксама ў закрытым галасаванні, вясковую раду. У яе састаў увайшлі солтыс Сцяпан Семянюк, малады гаспадар Віктар Краўчук і двое пенсіянераў: Міхал Амельянюк і Аляксандр Раеўскі. Гэты апошні таксама быў шматгадовым солтысам.

Калі ўдзельнікі сходу закончылі выбарчыя працэдуры, тады сталі абмяркоўваць вясковыя праблемы. Найбольш недакладнай справай з'яўляецца рамонт вясковай вуліцы і гравейкі Трасцянка—Бялкі—Агароднікі да вёскі Іванкі. З-за дрэннага стану дарог ПКС часта спыняе курсіраванне аўтобусаў на гэтай трасе. Жыхары Бялкоў вырашылі арганізаваць грамадскі чын пры рамонце палявых дарог і таму звярнуліся да войта гміны з просьбай дапамагчы дастаць бясплатна эскаватар. Жвір яны самі давязуць у патрэбныя месцы на сваіх трактарах.

**Мікалай Лук'янюк**

# V З'езд выпускнікоў

28 чэрвеня 1998 года заснаваўся Арганізацыйны камітэт V З'езду выпускнікоў і выхаванцаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

Юбілейны, V З'езд, арганізаваны ў 55-ую гадавіну заснавання школы, плануецца правесці 25-26 верасня 1999 года.

Калег, якія хочуць прыняць удзел ва ўрачыстасцях, просім кантактавацца і даваць папярэднія заяўкі па адрасе: **II Liceum Ogólnokształcące z BJN im. B. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4, 17-100 Bielsk Podlaski**, z dopiskiem **„V Zjazd Absolwentów"**.

Аргкамітэт просіць таксама ўключыцца ў інфармацыйную акцыю аб планаваным З'ездзе і ў падрыхтоўчыя працы, між іншым, у прыцягненні спонсараў.

**Аргкамітэт**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 marca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Адкуль бяруцца ледзяшы?*

**Фрашкі пра нашых**

## *Узаемнасць*

Ворагам павінен для мяне стаць сёння
Вораг твой, мой сябра, мой таварыш добры!
І калі ёй прыйдзе, мы яго прагонім;
Мы — я гэта, значыць (ці ж горшы ад кобры,
Якая кусае усіх без разбору,
І нават танцуе пад музыку пана?).

Не цягні ты, браце, ў дурнога камору,
Дзе цёмна ад злосці, брыдка і пагана!

**Вандал Арлянскі**

## *Двухлітарная крыжаванка*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | (5) | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 (3) | 6 (6) | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 ВО (4) | ЯК |
| | 10 (7) | | | | АА | |
| 11 | НА | ■ | | ■ | 12 ВА | 13 ПА |
| (1) | ■ | 14 | | 15 ЯА | ■ | ЎЛ |
| 16 | | | | 17 РА | | АЎ (2) |

**Гарызантальна:** 1. від матэрыі, 3. дзяржава з Лілонгве, 5. індзейскае племя ў ЗША і Канадзе, 7. дугападобнае перакрыццё праёма, 9. баец, 10. Руджыера, італьянскі кампазітар (1858—1919), 11. горад на поўначы Нігерыі, 12. Яўген, старшыня Беларускага саюза ў РП, 14. рака на Хонсю, 16. горад на ўсходзе Галандыі, 17. Руслан, балгарскі кампазітар (нар. у 1919 г.).

**Вертыкальна:** 1. загадчык універсітэта, 2. ціхая грэблю рве, 3. пляцёнка з саломы, 4. горад на паўночным захадзе Балгарыі, 6. пляж у Рыо-дэ-Жанейра, 8. па яго п'янаму мора, 9. мяккі коўкі метал серабрыста-белага колеру, 11. воінскае званне малодшага камандзіра, 13. Іван, расейскі фізіёлаг (1849—1936), 14. фізічная або маральная магчымасць актыўная дзейнічаць, 15. жыллё барсука.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 нумара**

**Гарызантальна:** фрашка, русіст, Шаміль, тыгр, кава, анабаптыст, штат, арда, світка, карнет, Сапега.

**Вертыкальна:** фрукты, каша, руль, страва, мітрапаліт, гранат, Кастар, штучка, дарога, свет, каса.

Рашэнне: **Васіль Петручук**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юрку Буйнюку** з Маліннік і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## Пажарх

Надыходзіць час Каляд, час найгалоснага свінскага квіку. Квік гэты плыве па нашых абязлюдзелых вёсках, быццам „бландзінкі" шкадавалі іх — тыя вёскі і хлявы ў іх, дзе яны адпрадвечна калюжаць сваю долюнядолю. А вось нам — розным гарадскім мужыкападобенцам адно клопат ад усяго гэтага. Бо ж зрэдукаваныя да пенсіянераў вяскоўцы не могуць пераварыць постквікавых прадуктаў і аграмадную долю іх адпраўляюць сваім гарадскім нашчадкам наогул. А не ўсе ж з іх прапусцяць закуекаю тое дабро ў адзін вечар; свініна, гэта не грошы ў Лас-Вегас. І марозяць тыя прадукты ў маразілках, бо маразілкі і звязаныя з імі маразільныя абрады прыжыліся ў нас з часоў не так даўняга дабрабыту-дэфіцыту. Для прыкладу: кумпяк замарожваецца ў вялікіх кавалках, якія потым па загаду жонкі трэба бедненькаму мужу адрэзваць адпаведнымі порцыямі. А вазьмі ж такі скамянелы кумпяк адрэж! Нож або коўзаецца, або ўцякае недзе ўбок, быццам зачараваны нейкім дыетолагам. А мо нажоўкаю пойдзе лепш, падумаў я, калі атрымаў загад на адбіўныя.

— Дзе старая піла? — крыкнуў я наўсюкватэрна.

— Не твая справа, дзе піла, — прахрыпеў са спальні прышлюблены мне голас, — за свае грошы піла.

Вазьмі і дагаварыся з бабаю! Праўду людзі кажуць, што баба — не чалавек. Кінуў я той камень мяса назад у маразілку і ўжо выбраўся ісці шукаць новую пілу. Ажно чую, як нехта вельмі важны і аўтарытэтны найгалосным перадсвяточным пафасам расхвальвае тэрмапілы і кажа, што гэта самы высакаякасны тавар, а ўсё другое — гэта адно барахло; на тэлебачаннай мове можна б мовіць, што тыя тэрмапілы таго ж самага класа што і наблівa-хабальная „Дынастыя", а ўсё другое са сваімі мяўканнем, гаўканнем ды іншым квікарэканнем — што і мужыцкія „Самі свае".

А мне ж, на маю змярзліну, акурат нейкая гарачая піла была б найбольш адпаведнаю! Кінуўся я кулём туды-сюды, разглянуўся і бачу: ёсць! Ухапіў я тыя тэрмапілы і зноў кулём пагнаўся, цяпер ужо дадому. Глянуў я на сваю навінку: упакоўка як у Амерыцы — бліскучая, элегантная. Памыў я дакладна рукі: два разы — парашком і мылам, — памазаў французскім крэмам і раскрыў. І з сярэдзіны ўспыхнула такое азарэнне, быццам гэта бомба тэрарыста нейкага тэрманейкая ўспыхвае. Калі ж крыху прыйшоў у сябе, пабачыў я, што гэта бляск не ад бомбы, а ад матыву агню. Ну, усцешыўся я, маю тое, што мне трэба: тэрмапілы з агнём! А калі яшчэ крыху паглядзеў, дык той агонь пачаў неяк бляднуць. Прыглянуўся я дакладней і бачу, што гэта зусім не тэрмапілы, толькі эскіз іх! Не паверу, калі не памацаю, — успомніў я маладняцкі дэвіз і дэталёвенька праверыў тыя тэрмапілы. І не апёкся, а да таго ж выявілася, што яны крыху шчарбатыя: чатыры ці пяць зубоў толькі. І няма сярод іх найважнейшага: „Фліртуся"! Ён жа адзін, не з агеньчыкам кволенькім, а з пажарам цэлым быў бы за ўсе тыя тэрмапілы. Як бы ён падыходзіў да завяршальнай канстатацыі, што вобраз згарання здзяйсняе інстынкты прыдаючыя жыццю рытм і што вартасць чалавека вызначае полымя, якое чалавек носіць у сабе!

Прычапіўся я да зубоў-дзіраў, быццам гэта яны састаўлялі ўсю сутнасць тых тэрмапілаў. А ёсць жа і каштоўная жамчужынка: выгравіравана там здагадка пра прыналежнасць да аднаго вядомага літаб'яднання такіх літтузоў як Геракліт, Анры Барбюс і Габрыэль д'Анунцыо. Не менш каштоўнаю алмазінкай з'яўляецца і зацемка, што ўжо ў 1910 годзе Эдвард Ляшчынскі адклікаўся да вогненнага матыву прысутнага ў творчым дасье перадавых паэтаў згаданага літаб'яднання. Пра другія там пытанні я тут згадваць па-за крытыкай не буду, бо гэтая сфера адведзена масцітым вучоным карыфеям, якія строга навуковымі прыёмамі дабіваюцца ісціны. Для прыкладу, у міжваенны перыяд у Львове два масцітыя прафесары матэматыкі пабіліся ў трамваі сваімі палкамі каб высвятліць фундаментальнае матэматычнае пытанне: з чаго пачынаецца лічэнне — з нуля ці з адзінкі. І я думаю, што наш адукаванейшы аўтарытэт, нягледзячы на маё пазакрытычнае крытыканства такога выдатнага вырабу, высвятліў фундаментальную ісціну, што нат шчарбатымі тэрмапіламі, без „Фліртуся", можна грэць па сваіх каранях.

* * *

Пераможцамі Фермапільскай бітвы сталі персы наогул. Аднак фесальскі грэк Эфіяльт таксама апынуўся ў ліку пераможцаў, паказаўшы персам сакрэтную горную сцяжынку, каб маглі яны акружыць „Гарачыя вароты" і прыкончыць яго суродзічаў.

**Адам Маньяк**

## Кароткі курс параної

**Бельведэрскія ночы**

— Эх, каб уставіць людзям у галовы, замест абвялых першабытных звілін, электронныя мазгі! — разважаў у доўгія бельведэрскія ночы Вялікі Электрык. — Ведаў бы, аб чым народ думае.

— Леху, устаўма лепш *суперструны*! — услужліва падкінуў новую ідэю *kapciowy*. — Людзі перастануць думаць і будуць жыць прыпяваючы.

— Уставіць *no problem*, — пагадзіўся Леху. — Але як на іх іграць?

* * *

Калі не можаш стаць майстрам, стань прэзідэнтам. *(Пагаворка Валэнсы).*

* * *

— Я аптыміст, а нават песіміст, — пакідаючы прэзідэнцкі палац, сказаў Вялікі Рыбак і пайшоў на рыбалку.

**Сучасны Катон**

— Пара канчаць польска-польскую вайну! — абаяльна ўсміхаючыся да лідэра *AWS*, прапанаваў Млынар, лідэр *SLD*. — Давайце заключым мір! Нават з хрэсным цалаваннем, — падкрэсліў.

— Я за мір! — з езуіцкай ухмылкай адказаў Мар-дэ-Янка, дучэ *AWS* і, узняўшы катэгарычна валявы падбародак, дадаў: — Але *SLD* трэба знішчыць!

Лозунг дня: Жыць па-брацку, як Каін з Авелем!

Я за, а нават супраць —

**Сідар Макацёр**